№ 13 (707) 6 красавіка 2011

www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**«Ці не схаваў ён штосьці ў задні праход?»**

Старонка 5



**Пратэст супраць росту цэн**

Старонка 8



**Толькі беларусы могуць тапіць адзін аднаго**

Старонка 9

Тэндэнцыі

## Лукашэнка: ва ўсім вінаваты машыны

«Нас падкасіў ажыятаж з аўтамабілямі. Там больш мільярда [даляраў, вывезеных для куплі аўто]. Не можам жа мы чалавека задушыць з-за гэтай валюты», — заявіў кіраўнік дзяржавы ў Кобрыне.

Гісторыя



## Вясна, якая сарвала аншлюс

15 гадоў таму выбухнулі маніфестацыі Мінскай Вясны-1996.
**Старонка 12.**

Танцы



## «Загаду адмяняць канцэрт Валачковай не паступала»

Скандальная балерына ў Мінску.
**Старонка 2.**

## Нацбанк да апошняга верыць у Расію

Улада чакае грошай з Масквы, якая патрабуе ад беларусаў радыкальнай дэвальвацыі.

31 сакавіка беларускі ўрад накіраваў на разгляд Масквы план рэформаў. Гэта была абавязковая ўмова, каб расійскі ўрад разгледзеў выдзяленне мільярда даляраў на падтрымку беларускай фінансавай сістэмы. Намеснік міністра фінансаў Расіі Дзмітрый Панкін заявіў у аўторак, што ягоная краіна ніякіх абяцанняў па тэрмінах не давала, а ўмовы прадастаўлення крэдыту бакі пакуль «фактычна» не абмяркоўвалі.

Пракаповіч ідзе на новыя саступкі, — 8%-ны калідор валют, прыняты на 2011 год, улада гатова трансфармаваць у 12%-ны. Гэта азначае афіцыйную дэвальвацыю беларускага рубля яшчэ на 5%. Рынак не верыць у дастатковасць такога кроку і ўжо падняў шэры курс даляра да 3500—3600.

Эканаміст Зміцер Крук мяркуе, што атрыманне $3 мільярдаў ад Расіі і ЕўрАзЭС стабілізавала б сітуацыю. «Але такім шляхам немагчыма вырашыць праблему беларускай эканомікі канцэптуальна. І праз год мы можам вярнуцца да сённяшняй сітуацыі», — папярэджвае ён.

**Дэвальвацыя рубля на 12%, скарачэнне дзяржпраграм на 50%**

Такія меры для стабілізацыі беларускай фінансавай сістэмы прапанавалі лукашэнкаўцы Маскве, якая патрабуе аздараўлення беларускіх фінансаў як умовы выдачы новых крэдытаў.

**Яўген Васількоў**

## Пракаповіч: адзін супраць усіх

Віцэ-прэм'ер Румас патрабуе дэвальвацыі, а блогер Ліпковіч — крымінальнай справы супраць Героя Беларусі.

1 красавіка на Беларускай валютна-фондавай біржы меліся адбыцца не жартаўлівыя, а цалкам сур'ёзныя таргі. Пасля паўмесячнага перыяду зацішша, выкліканага шматлікімі валютнымі абмежаваннямі, Нацбанк дазволіў свабодны гандаль валютай. «Свабодны» ў сваім разуменні.

Згодна з новымі правіламі, цяпер Нацбанк мусіць вызначаць індывідуальныя ліміты на куплю валюты для кожнага купца. У першую чаргу будуць задавальняцца заяўкі на куплю медыкаментаў, з астатняй сумы павінны быць задаволены заяўкі для разлікаў за газ, затым — на пагашэнне валютных крэдытаў. Пасля гэтага чарга дойдзе (ці, хутчэй, ужо не дойдзе) да астатніх заявак. Пасля набыцця валюты на іншыя мэты банкі будуць самастойна размяркоўваць яе сярод кліентаў.

**Працяг на старонцы 4.**

Апытанне «НН»




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Мінчукі пра крызіс: «Прэзідэнт абнаглеў!»

У абменніках не дакупіцца валюты, цэны растуць як на дражджах, улады моляць Расію пра новыя крэдыты. Што думаюць мінчукі пра эканамічную сітуацыю? І каго вінавацяць у сённяшнім валютным крызісе і інфляцыі?



Можа быць, наш «бацька» і сам трошку вінаваты. Але пакуль абстаноўка ў нас нармальная, крэпкая. Вытрымаем.



Думаю, з'явіцца валюта. Разлічваем на расійскі крэдыт. Я думаю, гэта проста пачатак года. У нас заўсёды цяжкі пачатак.



Валюта мне непатрэбна. І за рублі ўсё можна купіць. Хай бы пенсію Лукашэнка трошку падняў, і ўсё будзе добра.



Можна жыць. У параўнанні з іншымі рэспублікамі мы жывём лепей за ўсіх. Паранадражэла ўсё, канечне, але так і будзе, пакуль не будзем кожны на сваім месцы добра працаваць.



Дрэнна ўсё. Прэзідэнт зусім абнаглеў. Заробкі застаюцца, а цэны растуць. Што ён сабе думае? Добра яшчэ тут, у горадзе, а на сяле?



Проста ўладу трэба было выбіраць правільную ў свой час! Напэўна, трэба рэформы нейкія праводзіць.



А ці шчасце чалавечае ў гэтым заключаецца? Тое, — што ўсё даражэе, гэта заканамернасць. Калі ў нас штосьці таннела?



Што мы пра гэта думаем? Трэба валіць з гэтай краіны.



Дрэнна ўсё, канечне, але мы, рабочы клас, піва ідзём піць (смяецца).

**«НН»: А калі сур'ёзна, як думаеце, да чаго гэта прывядзе?**

— Да рэвалюцыі. Мы чакаем яе.



Страшна, куды гэта можа прывесці краіну. Я толькі спадзяюся, мы своечасова паспеем памяняць уладу.



Я жыву на здымнай кватэры, мне трэба плаціць за яе далярамі, але магчымасці іх набыць няма. Бегаеш па ўсім горадзе... А дзяржава мяне не забяспечыла жыллём, хоць я малады спецыяліст і працую па размеркаванні. Разумееце, я не ўпэўнена ў заўтрашнім дні... Не думаю, што ім удасца выцягнуць краіну з той ямы, у якую яны яе загналі. Яны нічога і рабіць не хочуць. Нешта добрае магчыма, толькі калі памяняецца ўлада.

**Настасся Шамрэй**

**Поўную відэаверсію апытання глядзіце на сайце nn.by.**

## Інфляцыя

З прычыны росту цэнаў на паслугі і паперу рознічная цана «Нашай Нівы» ад гэтага нумара вырасла да 2200 рублёў. Мы будзем і надалей трымаць цану на газету больш-менш як на бохан хлеба.

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

# Абарона вострава свабоды

## БНФ высяляюць з легендарнай Управы.

Памяшканне на праспекце Машэрава, 8 (раней — вуліцы Варвашэні) вядомае многім. Гэта адзіны камунальны будынак у Мінску, над якім лунае бел-чырвона-белы сцяг. Вось ужо 19 гадоў людзі прыходзяць сюды па навіны. Тут можна знайсці ўлёткі для раздачы. Тут штотыдзень адбываюцца канцэрты, вісяць выставы, прэзентуюць новыя кнігі. Усё гэта — без цэнзуры.

Тамсама прыватныя распаўсюднікі прадавалі незалежныя газеты, калі іх забаранілі ў «Саюздруку».

Партыя БНФ распараджалася офісам дэмакратычна: свае сходы, з'езды і тусоўкі там збіралі і хрысціянскія актывісты, і камуністы, і пісьменнікі.

Гэтае памяшканне атрымала ў людзей кароткую назву «Управа», ад «Управа БНФ».

Мала хто ведае, што атрымаць яго ўдалося ў 1992 годзе дзякуючы дэпутатцы гарсавета Галіне Вашчанка. Гэта яна, у будучыні жонка Зянона Пазняка, карыстаючыся сваім дэпутацкім статусам — гэта было ў час, калі дэпутаты яшчэ былі абраныя, а не вызначаныя, —выбіла ў кіраўніка Мінска Уладзіміра Ярмошына памяшканне для найбуйнейшай апазіцыйнай партыі, якая мела вялікую фракцыю ў гарсавеце.

Паводле іроніі лёсу, менавіта з Управы ў 1996 годзе пачаўся шлях на эміграцыю мужа Галіны, кіраўніка Народнага Фронту. Пакуль спецназ выбіваў дзверы з вуліцы, Зянон пакінуў сядзібу з двара. У першыя гады дыктатуры сілавікі часам дзейнічалі няўзгоднена.

Ад 31 сакавіка Партыю БНФ з яе гістарычнай управы высяляюць. ЖРЭА не хоча працягваць тэрмін арэнды. Там збіраюцца зрабіць разлікова-касавы цэнтр.

Гэта, прынамсі, трэцяя спроба выселіць БНФ. У папярэдніх выпадках, у часе старшынёўства Вінцука Вячоркі і Лявона Баршчэўскага, удавалася спускаць справу на тармазах. Гэтым разам саступак ад гарвыканкама дабіцца не ўдалося.

Экс-кандыдат у прэзідэнты Рыгор Кастусёў звяртае ўвагу, што рашэнне аб высяленні БНФ было прынятае неўзабаве пасля таго, як менавіта Управа стала месцам збору дапамогі для арыштаваных у дзень выбараў. «Пасля 19 снежня штодня на Сядзібе збіраліся сотні людзей. Яны прыносілі грошы, рэчы», — распавядае Кастусёў.

ЖРЭА патрабаваў, каб з 1 красавіка БНФ вызваліў памяшканне. 17 сакавіка старшыня партыі Аляксей Янукевіч заявіў пра падрыхтоўку да бестэрміновай абароны будынка: «Гэта будзе негвалтоўны супраціў. Дружына будзе дзень і ноч дзяжурыць у будынку».

29 сакавіка з Управы ў «надзейнае месца» вывезлі архівы.

Янукевіч заклікае ўсіх-усіх падтрымаць змаганне за Сядзібу.

У 2001 годзе дзякуючы вахце моладзі ўдалося абараніць Курапаты. Фронтаўцы хочуць тым жа спосабам адстаяць і гэты астравок беларускасці.

Яны абяцаюць штодзень канцэрты і сустрэчы, але, галоўнае, патрэбныя дзяжурствы людзей, каб на Управе банальна не памянялі замок.

У першую ноч вахту несла кіраўніцтва партыі на чале з Аляксеем Янукевічам. 1 і 4 красавіка прайшлі сустрэчы з паэтам Славамірам Адамовічам і бардам Змітром Бартосікам.

Гарадскія ўлады пакуль ніяк не адрэагавалі на рашэнне ПБНФ заставацца. Паводле дырэктара ЖРЭА Савецкага раёна Мінска Віктара Крука, гвалтоўна высяляць БНФ яны не плануюць. «Пакуль будзе ісці судовае разбіральніцтва, партыя можа заставацца ў гэтым будынку», — патлумачыў чыноўнік. Дата судовага разбіральніцтва пакуль невядомая.

Штомесяц за арэнду памяшкання агульнай плошчай 170 квадратных метраў партыя плаціць 8 мільёнаў рублёў.

У блізкай сітуацыі пратэстанцкая царква «Новае жыццё» трымаецца ўжо пяць гадоў.

**Мікола Бугай, Алесь Пілецкі**

## Сцісла

- **«Чарнобыльскі шлях» 26 красавіка.** У Мінгарвыканкам пададзеная заяўка на правядзенне традыцыйнага шэсця. Плануецца збор на пляцоўцы каля будынка прэзідыума Акадэміі навук у 17.45. У 18.30 — пачатак шэсця ў бок Чарнобыльскай капліцы ў парк Дружбы народаў, пасля заканчэння шэсця — мітынг. Заяўку падпісалі актывіст Хрысціянскай дэмакратыі Дзяніс Садоўскі, ветэран БНФ Юрый Хадыка і адзін з лідараў прадпрымальніцкага руху Мікалай Пахабаў.
- **84 суддзі адпраўлялі дэманстрантаў на суткі за ўдзел у Плошчы.** Спіс гэтых суддзяў склалі праваабаронцы. Яны кажуць, што ўпершыню такая вялікая колькасць суддзяў была ўцягнутая ў палітычныя працэсы. Аж 34 беларускія суддзі трапілі ў спіс неўязных у ЕС. У красавіку «чорны візавы спіс» можа дадаткова вырасці.
- **Электрычку Мінск—Ждановічы і лінію метро злучыць перасадачны вузел.** На станцыі метро «Маладзёжная» пачне функцыянаваць яшчэ адзін вестыбюль. Праз другі выхад пасажыры змогуць трапіць на платформу станцыі Мінск-Паўночны на трасе хуткаснай электрычкі. Цяпер людзям не трэба будзе ехаць да станцыі Мінск-Пасажырскі, каб трапіць у метро.
- **5 красавіка ў ВНУ пачынаюцца сумоўі.** На іх запісаліся 13403 абітурыенты, што на 1145 менш, чым летась. Прайсці сумоўе неабходна для паступлення на ўсе формы атрымання вышэйшай адукацыі па спецыяльнасцях: «Дзяржаўнае кіраванне», «Дзяржаўнае кіраванне і права», «Дзяржаўнае кіраванне і эканоміка», «Міжнародныя адносіны», «Міжнароднае права», «Правазнаўства», «Эканамічнае права», «Журналістыка», «Міжнародная журналістыка» і «Мытная справа». Цэнтралізаванае тэставанне пройдзе ад 14 да 29 чэрвеня.

**СМ**

# «Загаду адмяняць канцэрт Валачковай не паступала»

## Скандальная балерына напісала пра праблемы з канцэртам у Мінску.

«8-га павінна ляцець у Мінск, але гэтая паездка ледзь не сарвалася, — напісала балерына ў сваім блогу, — з цяжкасцю адваявала свой канцэрт».

Шоу Валачковай «Апладысменты» адбудзецца 9 красавіка. Квіткі каштуюць 60—170 тыс. рублёў. У касе канцэртнай залы «Мінск» паведамілі: «Нам сказалі, што канцэрт адбудзецца». У прыёмнай пацвердзілі: «Загаду адмяняць канцэрт Валачковай не паступала».

Нагадаем, што 2 лютага Анастасія Валачкова выйшла з партыі «Адзіная Расія». Прычынай стала негатыўная рэакцыя на эратычную фотасесію балерыны, апублікаваную ў інтэрнэце, а таксама калектыўны ліст партыі з асуджэннем Міхаіла Хадаркоўскага. Артыстка палічыла, што яе падманулі, калі ўгаварылі падпісаць яго.

Пасля дэмаршу ў Валачковай пачаліся праблемы з канцэртамі і запісамі на расійскім тэлебачанні.

**Сямён Печанко**

Анастасія Валачкова нарадзілася 20 студзеня 1976 у сям'і чэмпіёна СССР па настольным тэнісе Юрыя Валачкова. Заслужаная артыстка Расіі, вядомая сваімі формамі і піяр-талентам.



**Праблемы ў Валачковай пачаліся пасля скандальнай студзеньскай фотасесіі на Мальдывах.**

## Адпачынак

**Гістарычны агратурызм.** Адпачынак у шляхецкім засценку Глускай воласці. Беларускасць і танныя прадукты гарантуюцца. Т.: (029) 554-08-36. Grib-guri@rambler.ru. Васіль.

**Запрашаем у сяброўскае падарожжа** «Паўднёвая Ваўкавышчына» 1 мая па маршруце: Поразава—Гнёзна—Мсцібава—Падароск—Краскі—Лыскава. Т.: 262-73-43, (029) 111-73-32.

## Самае чытанае на nn.by за 30 сакавіка — 5 красавіка

1 Пракаповіч падаў прашэнне пра адстаўку (першакрасавіцкі жарт)

2 Стэнаграма інтэрв'ю Лукашэнкі: усё далей ад рэальнасці

3 Лукашэнкаўцы паказалі здымку Міхалевіча схаванай камерай

6 Перформанс на рынку ў Ждановічах: «Хто яшчэ хоча ў прэзідэнты?»

5 Маёр КДБ, які эміграваў: План «Плошча» распрацоўвалі ў ААЦ пад асабістым кіраўніцтвам Лукашэнкі

6 Банк скупляе наяўныя даляры па 3400 рублёў

7 Гурчанка: пяць мужоў, 96 фільмаў

8 Апошняя надзея Нацбанка: тры мільярды ад Расіі

9 Радзіна знаходзіцца «па-за зонай дасяжнасці КДБ»

10 Праграміст з Мінска надрэсіраваў птушак на пісанне «ШОС» (першакрасавіцкі жарт)

# Важная інфармацыя для тых, хто купляе «НН» у «Белсаюздруку»

«Белсаюздрук», якому належаць усе газетныя кіёскі Мінска, адмаўляецца браць у продаж больш чым 1800 экзэмпляраў «Нашай Нівы». Яны распрадаюцца цалкам. Афіцыйнае вяртанне складала ў студзені 2—3%. Гэта азначае, што ў рэальнасці купіць «Нашу Ніву» можна толькі ў сераду. Сапраўды, многія чытачы тэлефануюць, наракаюць, што газету купіць цяжка.

На нашы просьбы павысіць колькасць асобнікаў у продажы «Белсаюздрук» адказаў, што «не плануе павелічэнне тыражу». Выглядае, што абмежаванне тыражу мае палітычны характар. Газету раскупляюць пастаянныя чытачы, і яна менш трапляе на вочы новаму чытачу.

У сувязі з гэтым маем некалькі рэкамендацый:

**1.** Калі вы не здолелі купіць нумар у кіёсках «Белсаюздруку», пытайцеся газету ў найбліжэйшым аддзяленні «Белпошты» і ў прыватных распаўсюднікаў. На поштах «Нашу Ніву» таксама прадаюць.

**2.** Вельмі рэкамендуем падпісвацца. Так вы будзеце атрымліваць газету гарантавана. У той жа час і новыя чытачы будуць сутыкацца з газетай у кіёсках.

**3.** Просім кожнага з вас, хто не знаходзіць газеты ў сваім шапіку «Белсаюздруку», адразу кіраваць кароткі ліст наступнага зместу:

*ГРУП «Белсаюздрук»*
*220050 Мінск, вул.Валадарскага, 16*

*Я, (імя, імя па бацьку, прозвішча), які пражывае па адрасе ..., не знаходжу ў продажы газеты «Наша Ніва» ў кіёску №..., дзе я прывык яе купляць. Прашу павялічыць колькасць экзэмпляраў гэтай патрэбнай мне газеты, якія паступаюць у гэты кіёск.*

*З павагай,*

...

# Не забудзьцеся падпісацца!

## Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

## Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі — 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей — 63125, для прадпрыемстваў — 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

## Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

Змітру Левіту з Нью-Ёрка.
В.А., А.Л., Таццяне С., А.А., Аркадзю М., Валянціне С. з Гомеля.
Анатолю І. з Мастоўскага раёна.
Сяргею К. з Пінскага раёна.
Ірыне Ц. з Жыткавіцкага раёна.
Р.А., Яўгеніі К. з Віцебска.
Віктару К. з Рэчыцкага раёна.
С.А. з Крычаўскага раёна.
Алене П. з Верхнядзвінскага раёна.
Аляксандру Б., Дзмітрыю Ч., Віктару Д. з Капыльскага раёна.
Адзе Р. з Шаркаўшчынскага раёна.
Аляксандру А. з Магілёва.
Ірыне З., А.Т., Т.К. са Смалявіцкага раёна.
Аляксандру Г. з Кіраўскага раёна.
Сяргею Ц. з Докшыцкага раёна.
Вользе А. з Любанскага раёна.

# Патомны фінансіст

**Віцэ-прэм’ер Сяргей Румас прыцягнуў да сябе ўвагу смелай крытыкай фінансавай палітыкі Нацбанка.**

Каментуючы легалізацыю Нацбанкам павышанага курса даляра для прадпрыемстваў, у прыватнасці, ён зазначыў: «Адхіленне ў 10% можна ацэньваць і называць па-рознаму, але, па сутнасці, мы вяртаемся да множнасці валютных курсаў. І было б добра, калі б гэта 10%-е адхіленне афіцыйнага курса вырашыла праблему, але тыя сігналы, якія пасылае рынак, кажуць пра тое, што гэтага відавочна недастаткова».

Гэта рэдкі выпадак, калі высокі чыноўнік публічна выказваецца на гарачую тэму. Румас, фактычна, выступіў супраць палітычна матываванага заніжэння курса рубля.

Хто ж гэты чалавек, што пра яго вядома? Сяргей Румас — новы твар у беларускім урадзе. Ён заняў крэсла намесніка прэм’ер-міністра перад самым Новым годам. Румаса прызначылі на месца Андрэя Кабякова, асабліва блізкага да Аляксандра Лукашэнкі.

Але гэта не першы Румас ва ўрадзе.

Справа ў тым, што Сяргей Румас — патомны фінансіст. Ён сын Мікалая Румаса, які ў 1997 годзе кароткі час нават выконваў абавязкі міністра фінансаў.

Бацька віцэ-прэм’ера Мікалай Піліпавіч Румас нарадзіўся ў 1947 годзе ў Тураве. Ён скончыў наргас. І па размеркаванні накіраваўся ў Гомель, дзе працаваў у фінансавых і кантрольна-рэвізійных органах. Менавіта ў гэты час, у 1969 годзе, у Мікалая Піліпавіча і Вольгі Лявонцеўны Румасаў нарадзіўся сын Сяргей.

Потым бацьку накіроўваюць на павышэнне ў Мінск. Ад 1976 года ён увесь час працаваў у цэнтральным апараце Міністэрства фінансаў БССР пры Баляславу Шапілу. У 1990 Румас-старэйшы быў прызначаны першым намеснікам міністра Рэспублікі Беларусь. У нейкі перыяд, калі з пасады быў зняты Павел Дзікі, а Мікалай Корбут яшчэ на яе не заступіў, ён выконваў абавязкі міністра. Але на відныя ролі Румас ніколі не імкнуўся.

Дарэчы, маці віцэ-прэм’ера таксама эканамістка па адукацыі. Яна больш за 30 гадоў адпрацавала выкладчыцай у Мінскім фінансава-эканамічным каледжы. Яе колішнія студэнты і сёння добрым словам згадваюць Вольгу Лявонцеўну.

Што датычыць Румаса-малодшага, то ён, што не дзіўна, па слядах сваіх бацькоў таксама паступае на фінансавае. Вучыцца ў Яраслаўлі ў вайскова-фінансавым вучылішчы па спецыяльнасці «Фінансавае забяспечэнне войскаў». Пасля быў развал СССР, а потым прафесіі ён меў спрэс цывільныя. Адукацыю ён яшчэ замацаваў у Акадэміі кіравання тады яшчэ не пры прэзідэнце, а пры ўрадзе.



Пры Румасу «Белаграпрамбанк» стаў адным з самых паспяховых.

PHOTO.BYMEDIA.NET

Адразу па дэмбелі Румаса прымаюць на працу начальнікам улікова-аперацыйнага, крэдытнага і эканамічнага аддзелаў спецыялізаванага ўпраўлення Нацбанка. Але перыяд працы ў Нацбанку апынуўся нядоўгім.

У сярэдзіне 1990-ых Румас, як і многія іншыя ў той час, мяняе дзяржаўную працу на камерцыйную дзейнасць. Цягам двух гадоў ён займае высокія пасады ў двух прыватных банках: «Паўночны Захад» і «Садружнасць».

Але ўжо ў 1995 Сяргей Румас прыходзіць на працу ў «Беларусбанк». Там ён спачатку цягам сямі гадоў узначальвае філіял, а потым падымаецца па кар’ернай лесвіцы да намесніка старшыні праўлення банкам.

У верасні 2005 года Лукашэнка прызначае Румаса старшынёй «Белаграпрамбанка», дзе ён знаходзіўся да параднавагодняга прызначэння.

За час кіравання Румаса ў «Белаграпрамбанку» колькасць укладчыкаў павялічылася ў паўтара разу. Больш чым у тры разы вырас аб’ём дэпазітаў фізічных асобаў. А аб’ём крэдытавання насельніцтва — у 25 разоў. Аўтарытэтныя еўрапейскія фінансавыя выданні называлі «Белаграпрамбанк» найбольш стабільным у Беларусі.

«Магу дазволіць сабе быць дэмакратычным кіраўніком. Але, на жаль, ёсць такія пытанні, якія патрабуюць ад мяне прыняцця жорсткіх і не заўсёды папулярных рашэнняў», — прызнаваўся Румас у адным з інтэрв’ю.

Выглядае, што сёння Сяргей Румас — адзін з найбольш яркіх прыхільнікаў рынкавай эканомікі ў атачэнні Аляксандра Лукашэнкі. Разам з тым, вельмі дзіўна, як цяперашнія словы віцэ-прэм’ера кантрастуюць з ягонымі прагнозамі напярэдадні выбараў. Тады Румас быў перакананы, што пасля Новага года на фінансавым рынку нічога не зменіцца. А крызіс увогуле не ўдарыў па беларускіх банках. Цяпер жа ён быў адзіным, хто адважыўся сказаць пра няважны стан эканомікі.

Што датычыць палітычных аспектаў, то Румас імкнецца іх не закранаць. Перад выбарамі вядучы СТВ Юрый Казіятка паспрабаваў раскруціць банкіра на крытыку эканамічных праграм апазіцыйных кандыдатаў, але той адмаўчаўся.

Верагодна, што бліжэйшым часам Сяргей Румас таксама ўзначаліць Беларускую федэрацыю футбола, дзе заменіць невыязнога Генадзя Нявыгласа (яго нядаўна не пусцілі на матч зборнай у Албанію).

Румас — шматдзетны бацька. Разам з жонкай Жаннай яны маюць трох сыноў. «Самае галоўнае маё шчасце — гэта мая вялікая сям’я», — кажа ён.

**Зміцер Панкавец**



Румас — шматдзетны бацька. На фота: з жонкай і малодшым сынам.

# Наталля Радзіна не даехала на допыт



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Яна з’ехала за межы краіны. Пакуль невядома, куды.**

30 сакавіка прайшла інфармацыя, што рэдактарку сайта «Хартыя-97» Наталлю Радзіну выклікаюць на допыт у Мінск. Меркавалася, што найхутчэй для прад’яўлення абвінавачвання.

Сапраўды, прыкладна ў 21:30 Наталля выехала з Кобрына ў бок Мінска. Мама журналісткі Надзея Максімаўна расказала «НН»: «Прасіла не тэлефанаваць ёй да 15-й гадзіны дня. Маўляў, будзе сустракацца з адвакатам, а потым ёй трэба зрабіць стрыжку і пафарбавацца».

Час ішоў, але ніякіх звестак ад Радзінай не было. Адвакатка Наталлі Мар’яна Сямешка паведаміла, што допыт перанеслі на 1 красавіка і з Радзінай яна не сустракалася. Тэлефон самой журналісткі маўчаў.

На такую сітуацыю магло быць некалькі версій: 1) Наталля з’ехала за мяжу, як Міхалевіч; 2) Радзіна зноў апынулася ў турме.

Аказалася, варыянт адзін. У той самы дзень позні вечарам КДБ выклікаў на допыт рэдактараў газет, што першымі напісалі пра знікненне журналісткі, — Андрэя Скурко («Наша Ніва») і Марыну Коктыш («Народная воля»).

Прыходзілі супрацоўнікі спецслужб і дадому да Наталлі ў Кобрыне. Потым Валянцін Радзін паведаміў, што, паводле звестак КДБ, іх дачка сышла з цягніка ў Лунінцы. Больш яе ніхто не бачыў.

Сама Наталля на кантакт пакуль не выходзіць. Адзінае, што яна дала, — невялікае інтэрв’ю для ўласнага сайта. «Я не хацела б раскрываць падрабязнасці, бо гэта можа нашкодзіць людзям, якія мне дапамагалі. Я ўдзячна ўсім, хто дапамог мне выехаць, з іх боку гэта быў сапраўдны подзвіг», — зазначыла Радзіна.

Журналістка пакуль не называе краіну, дзе яна знаходзіцца. Вядома толькі, што яна ў лагеры для ўцекачоў. З-за мяжы Радзіна зможа працаваць над сайтам «Хартыя-97» па-ранейшаму.

**ЗП**

# Някляеву, Рымашэўскаму, Халіп змякчылі абвінавачванні

Цяпер іх абвінавачваюць у «арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак», а не ў «масавых беспарадках». Па новым артыкуле прадугледжаная санкцыя да трох гадоў, тады як па старому да пятнаццаці.

Пад новыя абвінавачванні трапілі ўсе лідары «Гавары праўду»: Някляеў, Вазняк, Дзмітрыеў, Фядута, два сустаршыні БХД Віталь Рымашэўскі і Павел Севярынец, каардынатары «Еўрапейскай Беларусі» Зміцер Бандарэнка і жонка Саннікава Ірына Халіп, актывістка «Маладога фронту» Наста Палажанка, актывіст штаба Статкевіча Сяргей Марцалеў.

Уражвае другая частка абвінавачвання супраць Севярынца, Бандарэнкі, Халіп і Марцалева. Па меркаванні следства, яны вінаватыя ў штучным стварэнні нагоды «для рэакцыі дзяржаваў Еўрасаюза і ЗША, якія прынялі меры па ўвядзенні са свайго боку санкцый як спосабу эканамічнага і палітычнага ціску на афіцыйную ўладу ў Беларусі».

З кандыдатаў у прэзідэнты абвінавачванне ў арганізацыі масавых беспарадкаў выставілі толькі Андрэю Саннікаву, Міколу Статкевічу і Дзмітрыю Усу. Справу двух апошніх ужо перадалі ў суд.

Невядома пакуль, што будзе прад’яўлена лідару Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатолю Лябедзьку.

**ЗП**

# Пракаповіч: адзін супраць усіх

Працяг са старонкі 1.

У першы ж дзень большасць заявак быліануляваныя самімі банкамі праз бессэнсоўнасць удзелу ў таргах. Невялікі аб'ём прапановы — усяго $8,5 мільёна — не даваў ніякіх шанцаў на куплю валюты маленькімі банкамі. Фармальна попыт і прапанова былі аднолькавымі, таму курс даляра застаўся нязменным. У панядзелак, 4 красавіка Нацбанк не стаў звяртаць увагу нават на гэтую фармальнасць. Попыт быў утрая большым за прапанову, але даляр зноў ацанілі ў 3045 рублёў. Дэвальвацыя зноў адкладаецца.

### Споведзь Румаса

За правядзенне дэвальвацыі нечакана выступіў віцэ-прэм'ер Сяргей Румас. Ён заявіў, што стварэнне альтэрнатыўнага курса беларускага рубля, які складае 10% ад афіцыйнага, — паўмера. «Было б добра, калі б гэта вырашыла праблему, але тыя сігналы, якія пасылае рынак, кажуць пра тое, што гэтага відавочна недастаткова. Нацбанку неабходна ажыццяўляць далейшыя крокі ў гэтым кірунку», — прызнаўся віцэ-прэм'ер. Ён запэўніў, што Савет Міністраў не можа ўплываць на дзеянні Нацбанка: «Мы занепакоены тым, што прадпрыемствы і грамадзяне не могуць звычайна купляць валюту. Мы выказваем Нацыянальнаму банку сваё бачанне гэтага пытання, але ў канчатковым выніку рашэнне пытанняў валютнага рэгулявання застаецца за Нацбанкам», — зазначыў ён.

Румас выказаў сумнеў у тым, што расійскі крэдыт прынцыпова зменіць сітуацыю.

### У кожнага свой курс

Румас паабяцаў, што валюта з'явіцца ў абменніках «1 красавіка ці ў панядзелак». На праўдзе не адбылося ні таго, ні другога. Беларусы паранейшаму марна стаяць каля абменнікаў у чаканні тых, хто здае валюту. Нагадаем, што Нацбанк не прадае банкам валюту для продажу насельніцтву аж з 22 сакавіка. Дэфіцыт даляраў дае падставы прадаўцам імпартных тавараў фармаваць свой курс амерыканскай валюты, які абмяжоўваецца толькі ўласнай фантазіяй. Разам з тым, гэта знак для Пятра Пракаповіча — насельніцтва маральна падрыхтавалася да новага курса даляра.

**Яўген Васількоў**

### У каго які курс даляра?

| | |
|---|---|
| Нацыянальны банк | 3050 |
| Банкі, абменнікі | 3110 |
| Дазволены Нацбанкам курс продажу валюты прадпрыемствам | 3355 |
| «Франсабанк» скупляе наяўныя даляры | 3400 |
| Інтэрнэт-крамы | 3300—3500 |
| Аўтарынкі | 3500—3800 |
| Рынак «Ждановічы» | 3600—3800 |

Блогер Яўген Ліпковіч апублікаваў у сябе ў інтэрнэт-дзённіку адкрыты зварот да генпракурора з патрабаваннем распачаць крымінальную справу супраць Пятра Пракаповіча за «выцягванне крэдыту ці датацыяў» і «ўтойванне эканамічнай неплацежаздольнасці (банкруцтва)»

# Тыдзень транспартнага падаражання

Вырасла цана бензіну, а таксама праезду.




Новыя цэны на паліва выглядаюць наступным чынам:

дызель — 3150 рублёў (раней 2850);
Н-80 — 3150 рублёў (раней 2850);
АІ-92 — 3300 рублёў (раней 3000);
АІ-95 — 3750 рублёў (раней 3400).

Праз два дні, 2 красавіка, павялічыўся кошт праезду ў грамадскім транспарце. Новыя талоны і жэтоны для метро ў сталіцы прадаюцца па 850 рублёў замест старых 700 рублёў. У рэгіёнах цана вырасла з 600 да 700 рублёў.

Праз два дні адрэагавалі ўладальнікі маршрутных таксі. Кошт паездкі ў Мінску вырас з 2200 да 2500 рублёў

Нагадаем, што з 21 сакавіка падаражаў і праезд у электрычках.

**ЯВ**

# У касе Нацбанка раскупілі кілаграмовыя зліткі золата

Кожны з іх каштуе больш за $50 тысяч.

У цэнтральным офісе Нацбанка на мінулым тыдні ўтварылася чарга з людзей, што стаялі па зліткі і манеты. Калі чарга «рассмакталася», выявілася, што ў продажы ўжо не было залатых і срэбных манет «Славянка», срэбнай «Іконы Прасвятой Багародзіцы», залатых злiткаў па 100, 500 грамаў... Размялі нават кілаграмовыя залатыя зліткі, кожны з якіх каштуе больш за 51 тысячу долараў!

Паводле слоў касіркі, апошнім часам ахвотных купіць кілаграм золата было шмат: «Усё распрадалі, а падсілкавання пакуль няма», — распавяла яна.

Самых вялікіх зліткаў са срэбра ў продажы таксама не было — ні па 250 грамаў, ні па 500, ні па 1000. Людзі працягвалі прыходзіць. Некаторыя спа-дзяваліся купіць валюту, але ні даляраў, ні еўра ў касе Нацбанка няма.

Тым часам у прэс-службе Нацбанка запэўніваюць, што зліткі ўслед за далярамі нікуды не знікнуць: «Не хвалюйцеся, золата дакладна хопіць. У нас яго больш за 30 тон, — супакоіў Анатоль Драздоў. — Мерныя зліткі ў нас у продажы ёсць пастаянна. Магло не быць срэбных зліткаў або плацінавых, але золата было заўсёды. Дадамо, што 100 грамаў золата ў Нацбанку каштуе 15 з паловай мільёна рублёў, а 100 грам срэбра — паўмільёна.

**Паводле «Еўрарадыё»**

# Уклады за мяжой — альтэрнатыва для недаверлівых

Стаўкі па дэпазітах ва Украіне роўныя беларускім. А ў надзейных банках ЕС — ніжэйшыя.

Давер да айчыннай банкаўскай сістэмы сярод беларусаў меншае. Колькі б ні даводзіў старшыня Нацбанка Пятро Пракаповіч, што сітуацыя пад кантролем і ўкладам нічога не пагражае, насельніцтва працягвае мэтанакіравана выносіць свае грошы з банкаў. Лежачы пад падушкай, яны не прыносяць працэнтаў, але даюць адчуванне бяспекі.

Калі ж не давяраць «Беларусбанку», «Белінвестбанку» і Со, куды несці грошы? Адна з альтэрнатыў — замежныя банкі. Усяго 200 кіламетраў ад Мінска — і беларускія ўлады не змогуць замарозіць валютны ўклад ці абвесціць дэвальвацыю грошай на рублёвым дэпазіце. «НН» аналізуе сітуацыю з банкаўскімі ўкладамі ў пяці суседніх з Беларуссю дзяржавах.

### Падазрона высокія стаўкі

Але спачатку пра нашу краіну. З аднаго боку, банкі павялічваюць працэнтныя стаўкі па валютных укладах, робячы прапанову ўсё больш прывабнай. З іншага, такія лічбы не выклікаюць даверу, бо выглядаюць раздзьмутымі як бурбалка, якая можа лопнуць у любы момант.

Напрыклад, РРБ-Банк гатовы ўзяць даляры альбо еўра на 18 месяцаў, выплаціўшы 9,5% гадавых. Прычым стаўка — фіксаваная. Гэта рэдкі выпадак для беларускіх банкаў, якія імкнуцца заключаць дамовы з плаваючай стаўкай. Гэта значыцца, што ўмовы могуць быць перагледжаныя банкам у аднабаковым фармаце ў любы час. Большасць іншых беларускіх банкаў гатовыя пакуль што выплачваць 8% гадавых. Што да ўкладаў у рублях, то тут стаўкі даходзяць да 20%. У лідарах — усё той жа РРБ-Банк. Буйныя дзяржаўныя банкі абмяжоўваюцца 18% гадавых на рублёвыя дэпазіты.

### Стаўкі меншыя, давер большы

Калі параўноўваць сітуацыю з той, што ёсць у суседзяў, то бачная галоўная хіба дэпазітаў у краінах Еўрасаюза — надзвычай нізкія працэнтныя стаўкі. Калі ўдасца знайсці варыянт з хаця б 3,5% гадавых, гэта рэдкі поспех. У Літве, як і ў Польшчы, валютныя прапановы для нерэзідэнтаў краіны ўвогуле складаюць каля 1-2%, у Латвіі ўдвая вышэй — 3-3,5%. З нацыянальнай валютай сітуацыя лепшая, тут можна знайсці прапановы ў раёне 4-4,5%. Хоць варта прызнацца, банкаўскія сістэмы абедзвюх краінаў далёкія ад дасканаласці, і банкруцтвы фінансавых установаў працягваюць засмучаць укладчыкаў.

У Расіі і Украіне стаўкі па дэпазітах падобныя да беларускіх. Вось толькі высокі прыбытак абяцаюць маленькія банкі, якія адчыняюццазачыняюцца часцей. Калі ж звярнуцца ў вялікія ўстановы, то стаўкі па валютных дэпазітах складуць 6-8%, прычым ва Украіне даляр лічыцца больш прыбытковым.

### Парушэнне без адказнасці — не парушэнне?

Галоўнае пытанне — наколькі легальна мець замежны рахунак? Калі кіравацца законам літаральна, то кожны грамадзянін, які адкрывае рахунак па-за межамі Беларусі, павінен атрымаць дазвол ад Нацбанка. Для гэтага трэба напісаць у банк заяву адвольнай формы, у якой указаць сваё імя, адрас, пашпартныя дадзеныя, рэквізіты замежнага банка і — галоўнае — аргументацыю, чаму вам неабходны замежны рахунак. Калі ўдасца даказаць сваю пазіцыю, то будзе выдадзены дазвол тэрмінам на адзін год, які трэба будзе працягваць штогод. Але недасканаласць беларускага заканадаўства праяўляецца ў тым, што ніякай адказнасці за такія парушэнні не прадугледжана — ні крымінальнай, ні адміністратыўнай. Пакараць могуць толькі службовых асобаў, але не звычайных грамадзян. Якраз гэтай шчылінай у заканадаўстве і карыстаюцца ўладальнікі замежных рахункаў, прычым паспяхова.

**Яўген Васількоў**

**Валютныя ўклады ў Беларусі і ў суседзяў***

| Краіна | Валюта | Стаўка ў любым банку | Стаўка ў топ-банках |
|---|---|---|---|
| Беларусь | Даляры і еўра | 9,5% (РРБ-Банк) (на 18 месяцаў) | 6,6% (Белзнешэканомбанк) |
| | Беларускія рублі | 20% (РРБ-Банк) (на 6 месяцаў) | 18% (шэраг банкаў) |
| Расія | Даляры і еўра | 8% (Элкабанк, Западный) | 6,5% (Альфа-Банк) |
| | Расійскія рублі | 11% (Гала-банк) | 10% (Альфа-Банк) |
| Украіна | Даляры | 9,5% (Энерга-банк) | 8% (Альфа-Банк) |
| | Еўра | 8,5% (Юнэкс) | 7,5% (Прыват-Банк) |
| | Грыўні | 20% (Плюс Банк) | 16,5% (Дэльта) |
| Літва | Даляры | 2,1% (Medbank) | 1,25% (Snoras) |
| | Еўра | 1,9% (Medbank) | 1,25% (Snoras) |
| | Літы | 3% (Medbank) | 2,7% (Ukio) |
| Польшча | Даляры | 2,15% (GETIN bank) | 2,15% (GETIN bank) |
| | Еўра | 2,75% (GETIN bank) | 2,75% (GETIN bank) |
| | Злотыя | 4% (Millenium) | 4% (Millenium) |
| Латвія | Даляры | 3% (PrivatBank) | 3% (PrivatBank) |
| | Еўра | 3,5% (PrivatBank) | 3,5% (PrivatBank) |
| | Латы | 3,5% (PrivatBank) | 3,5% (PrivatBank) |

*Шукаліся варыянты размяшчэння 2000 еўра ці іншай валюты ў эквіваленце тэрмінам на 1 год.

### Сцісла

• **Афіцыйная дэвальвацыя ўжо дасягнула 6,65% ад пачатку года.** У аўторак еўра ў чарговы раз абнавіў рэкорд, дасягнуўшы ўзроўню 4332 рублі. Яго курс павялічыўся са студзеня на 9%. Да максімуму дабраўся і расійскі рубель.

• **Беларускі бізнэс: $4-6 даляраў даходу на нафце.** У мінулым годзе прыбытак з кожнай тоны венесуэльскай нафты склаў каля $4-6 за тону. Перспектывы паставак іранскай нафты яшчэ горшыя, там няма і такога «навару».

• **Урад Беларусі даслаў у Маскву праект рэформ для атрымання крэдыту на $1 мільярд.** У праграме апісаныя меры па ўзмацненні жорсткасці грашова-крэдытнай і бюджэтна-падатковай палітыкі. Аднамомантавая дэвальвацыя беларускага рубля не плануецца.

• **Замежны дзярждоўг пераваліў за $10 мільярдаў, сукупны — каля 3 0-ці.** За два месяцы 2010-га дзярждоўг павялічыўся на 9,7% і дасягнуў $10,63 мільярда. На абслугоўванне замежнага дзярждоўгу сёлета будзе выдаткавана $862 мільёны.

• **Міністр эканомікі: фінансаванне дзяржпраграм скароціцца напалову.** Са словаў Мікалая Снапкова, будзе скарачацца фінансаванне праграм у рэальным сектары эканомікі.

• **У Беларусь за 3 месяцы ўвезена столькі ж легкавікоў, колькі за ўвесь мінулы год.** Штодзень бюджэт атрымлівае каля $5 мільёнаў за размытнёўку аўтамабіляў.

• **Дэфіцыт морквы, буракоў і цыбулі.** Камісія Мытнага саюза прыняла рашэнне абнуліць да 30 чэрвеня 2011 года стаўкі ўвазных мытаў на моркву, буракі і цыбулю.

**ЯВ, СГ**

# «Ці не схаваў ён штосьці ў задні праход?»

КДБ апублікаваў відэазапіс размоваў з Міхалевічам, зробленых схаванай камерай.

Кіраўніцтва Генеральнай пракуратуры прадэманстравала фільм, зняты ў СІЗА КДБ, аб гатоўнасці экс-кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Алеся Міхалевіча супрацоўнічаць з КДБ.

Фільм быў зняты схаванай камерай. На пытанне журналістаў, ці быў Міхалевіч апавешчаны аб вядзенні здымкаў, супрацоўнікі пракуратуры не адказалі. Таксама няма інфармацыі, у рамках якіх юрыдычных ці этычных нормаў кандыдата ў прэзідэнты вербавалі (!) у турме.

У прадэманстраваных кадрах А.Міхалевіч гаворыць следчаму, што лаяльны да ўлады, запэўнівае, што для КДБ ён моцны саюзнік. «Упэўнены, што ў чымсьці магу быць патэнцыйна карысны. Я гатовы дапамагаць. Я чалавек, які пакуль што нікога не кідаў і не падманваў. Можаце разлічваць», — казаў А. Міхалевіч.

Сам Міхалевіч распавядаў пра факт гэтага відэазапісу і тлумачыў, што ён прыняў прапанову стаць сексотам, каб атрымаць магчымасць вырвацца з турмы і расказаць пра ўмовы ўтрымання, роўныя катаванням.

На відэазапісе экс-кандыдат прапаноўвае «завязаць з палітыкай». «Я магу сваю палітычную дзейнасць прыпыніць ці спыніць наогул. Што прапануеце... Я магу на кагонебудзь выходзіць і сустракацца. Усё залежыць ад таго, як вам лепш», — кажа Міхалевіч.

Пасля сыходу следчага з кабінета, калі здымка яшчэ працягвалася, Міхалевіч выглядае задаволеным сабой і нават штосьці малюе пальцам на сцяне.

Намеснік генпракурора Андрэй Швед абверг заявы Міхалевіча пра катаванні ў турме. Ён заявіў, што пракуратура праводзіла праверку і такіх фактаў не выявіла. «Але Міхалевічу прапаноўвалася прысесці некалькі разоў, каб праверыць, ці не схаваў ён штосьці ў задні праход, — адзначыў Швед. — Так часам робяць зняволеныя, хаваючы, у тым ліку, колючарэжучыя прадметы». Усе астатнія заявы Міхалевіча названы няпраўдай. Карацей, пракуратура выявіла, што ўмовы ў СІЗА КДБ амаль курортныя.

Швед патлумачыў подлы паклёп з боку Міхалевіча жаданнем апошняга выехаць на пражыванне за мяжу. Варта адзначыць, што сам Швед уваходзіць у спіс асобаў, неўязных у краіны Еўрасаюза. Яго туды ўнеслі як адну з асобаў, падазраваных у датычнасці да парушэння правоў чалавека ў Беларусі.

Сам Міхалевіч заявіў, каментуючы відэазапіс: «Гэты відэазапіс быў зроблены пасля прыкладна 20 дзён майго знаходжання ў турме. Каб мяне больш не мучылі, я пагадзіўся размаўляць з імі без адваката. Пасля катаванняў я проста пачаў гуляць з КДБ, каб вырвацца на свабоду».

**Мікола Бугай**



# Паміж жэстам адчаю і грамадзянскім подзвігам

30 сакавіка блогер Дзмітры Галко (budzimir) абвясціў бестэрміновую галадоўку, патрабуючы вызвалення палітвязняў.

«Не магу пасіўна назіраць за палітычным бязмежжам, што існуе ў маёй краіне, абмяжоўваючыся шчоўканнем дзюбай у ЖЖ», — напісаў тыдзень таму ў сваім блогу Зміцер Галко, вядомы пад нікам Будзімір.

Даведаўшыся, што галадоўку абвясціў Мікіта Ліхавід, асуджаны за падзеі 19 сакавіка на 3,5 года калоніі, ён прысвяціў сваю акцыю пратэсту менавіта яму. «На месцы Мікіты мог быць хто заўгодна: я, мой сын — любы, хто быў у той дзень на плошчы. Пяць хвілін на відэа — і атрымай тры гады турмы. Гэты абсурдны, нялюдскі прысуд стаў апошняй кропляй», — тлумачыць прычыну свайго ўчынку блогер.

Ён згадвае галадоўкі, што давалі вынік: вернікаў царквы «Новае жыццё» ў 2006 годзе, якія адстойвалі свой храм, кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна.

«Мая перавага ў тым, што я не палітык. Мяне цяжка звінаваціць у імкненні прыцягнуць такім чынам да сябе ўвагу», — перакананы Будзімір.

Яго заяву ў байнэце сустрэлі па-рознаму. Блогер pessimist2006 назваў Будзіміра смяротнікам. «Улічваючы, што гэтую зброю слабых да яго ў Беларусі апашлілі ўсялякія блазны, ён смяротнік. Каб давесці, што ён не блазан — яму давядзецца памерці. Адзінае, што мы можам зрабіць у гэтай сітуацыі, — гэта даводзіць да ўсіх (і асабліва да ўладаў), што ён не жартуе. Гэта адзіны шанец выратаваць яму жыццё», — піша pessimist2006.

На сайтах, што паведамілі пра галадоўку Будзіміра, адразу актывізаваліся падазроныя каментатары. Яны на розныя галасы пачалі даводзіць марнасць учынку блогера.

Пазней Ліхавід перадаў праз адваката інфармацыю, што адкладае галадоўку да разгляду ягонай касацыйнай скаргі ў Вярхоўным судзе. Будзімір разгубіўся, але галадаць не кінуў. Учынак Ліхавіда ён лічыць нясвоечасовым: супольная галадоўка выклікала большы рэзананс і, апраўдана, дае шанцы на вынік.

Адчувае сябе Будзімір праз тыдзень галадоўкі аднасна добра. «Сплю больш, чым звычайна. Курыць, на жаль, пакуль не кінуў».

Яго натхняе рэакцыя на яго крок. «Людзі дзякуюць мне, — кажа ён, — за тое, што я разварушыў іх».

**Сямён Печанко**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Мая перавага ў тым, што я не палітык.

**Дзмітры Галко**

нар. у 1979 у Мінску. Жанаты, у сям'і двое сыноў. 19 снежня 2010 узяў удзел у акцыі пратэсту, быў затрыманы і адсядзеў 10 сутак арышту.

**Галадоўкі ў Беларусі**

Большасць галадовак у найноўшай гісторыі краіны мелі палітычны характар.

Адна з першых адбылася ў сценах Вярхоўнага Савета ў маі 1995, калі дэпутаты ад апазіцыі пратэставалі супраць Ганебнага рэферэндуму. У ноч на 12 красавіка 1995 галадоўнікаў збілі і вывелі з будынка парламента.

У красавіку 1996 у турме апынуліся лідары БНФ Вячаслаў Сіўчык і Юры Хадыка. У выніку галадоўкі іх вызвалілі.

У лютым 2004 бестэрміновую галадоўку абвясцілі прадпрымальнікі некалькіх рынкаў Віцебска. Яны выступілі супраць эканамічнай дыскрымінацыі. У справу ўмяшаўся Лукашэнка, быў знойдзены кампраміс.

У 2004 галадалі дэпутаты лукашэнкаўскага парламента: Сяргей Скрабец, Валерый Фралоў і Уладзімір Парфяновіч. Яны дабіваліся зменаў у выбарчым заканадаўстве. Неўзабаве яны спынілі сваю галадоўку.

Палітычную галадоўку ў турме ў 2006 трымаў Аляксандр Казулін. Ён дабіваўся вызвалення ўсіх палітвязняў. У выніку пытанне парушэння правоў чалавека ў Беларусі было ўзнятае ў Радзе бяспекі ААН.

У палітычную галадоўку перарасла акцыя Міколы Аўтуховіча, прадпрымальніка з Ваўкавыска, які трапіў у турму, баронячы свой бізнес. У 2005 ён галадаў 74 дні.

Неаднойчы галадоўку абвяшчалі сябры незарэгістраванага «Маладога фронту». Калектыўныя галадоўкі ладзіліся ў Жодзіне (2005), Салігорску і Мінску (2006).

Адносна паспяховымі былі вынікі 23-дзённай галадоўкі вернікаў пратэстанцкай царквы «Новае жыццё» ў Мінску ў 2006. Дзякуючы самаахвярнасці, яны на пэўны час здолелі адстаяць свой будынак.

У тым жа годзе ў Гродне група каталікоў на чале з ксяндзом галадалі і дамагліся права на будаўніцтва новага каталіцкага храма.

У 2006 у Брэсце галадалі ўладальнікі маршрутных таксі. Яны пратэставалі супраць трактоўкі ўказа Лукашэнкі №140 аб рэспубліканскім зборы за ўвоз у краіну транспартных сродкаў з камерцыйнай мэтай, згодна з якой указ меў зваротную сілу. Галадоўнікі падкрэслівалі, што іх акцыя мела выключна эканамічны характар. Указ быў скасаваны.

Калі няма дэмакратычных выбараў, а асноўныя СМІ і суды цалкам залежаць ад прэзідэнта, часта толькі такі адчайны крок як галадоўка дае магчымасць звярнуць увагу на праблему.

# Пасля арышту ва ўдзельніцы Плошчы дабраякасная пухліна ператварылася ў злаякасную

У выніку арышту Таццяна Грачанікава не трапіла своечасова на аперацыю.

Жанчыну мусілі прааперваць 20 снежня 2010 г. Але за дзень да гэтага яна разам з мужам трапіла на Акрэсціна за удзел у Плошчы. На пятнаццаць сутак. Мужа, Юрыя Шпак-Рыжкава, пасля гэтага выгналі з працы — ён працаваў маляром. З Таццянай здарылася горшае.

Яшчэ ўвосень у Таццяны знайшлі пухліну. Дабраякасную. Дактары прызначылі аперацыю.

Жанчына звярталася да суддзі з просьбай замяніць арышт на штраф. Але яе праігнаравалі. У выніку, калі вызвалілася, ёй прыйшлося паўторна здаваць аналізы. Пакуль дайшла чарга, яны паказалі, што дабраякасная пухліна ператварылася ў злаякасную. Таццяне дыягнаставалі спачатку рак II ступені, а цяпер ужо і III-й.

Юрый паведаміў, што яны адкрылі рахунак у банку, на які можна пералічыць сродкі для дапамогі жонцы. Жанчына дрэнна сябе адчувае. Але поўная намеру змагацца за выздараўленне. Каб пабачыць спаўненне тых ідэалаў, дзеля якіх выходзіла на Плошчу.



Філіял 511, аддзяленне 273, ААТ «ААБ Беларусбанк» г. Мінск. Рахунак № 000 001, 9004-Р \ Дабрачынны рахунак. BYR. Грачанікава Таццяна Анатольеўна.

Дадатковая інфармацыя: (017) 214-64-03 (Юрась), (033) 314-14-01 (Таццяна).

Электронная пошта jurasnavicki@gmail.com.

**Сяргей Макарэвіч**

# ЦУМ «абчысцілі ад першага паверха да пятага»

**Найбольшы ў краіне ўнівермаг эканоміў на відэакамерах.**

У ноч з 2 на 3 красавіка быў абрабаваны мінскі ЦУМ — адна з найбольшых крамаў Беларусі. Наведнікі, якія прыйшлі ў ЦУМ раніцай у ня-дзелю, трапіць у краму не змаглі — на дзвярах іх вітала шыльда «Універмаг працуе ад 16-й гадзіны». Прычына высветлілася хутка — работнікі ЦУМа расказалі журналістам, што ўначы краму «абчысцілі ад першага паверха да пятага». Адміністрацыя ж маўчала, а міліцыя прасіла звяртацца ў панядзелак.

Пасля выходных ГУУС Мінгарвыканкама паведаміла, што падазраваны ў здзяйсненні злачынства затрыманы па гарачых слядах. Яму ўдалося вынесці фотаоптыкі, срэбра і наяўных грошай больш як на 36 мільёнаў рублёў.

У дачыненні да злачынцы распачатая крымінальная справа па артыкуле «Крадзеж у асабліва буйным памеры».

Цяпер ЦУМ вярнуўся да нармальнага рэжыму. Слядоў злачынства не відаць. Толькі на пятым паверсе, у аддзеле срэбра, — некалькі пустых вітрын. Супрацоўнікі на пытанні аб крадзяжы адмоўчваюцца, спасылаючыся на таямніцу следства.

Магчыма, злодзею паспрыяла адсутнасць відэаназірання ў ЦУМе. Нягледзячы на вялікія шыльды, якія папярэджваюць аб ім, у краме не усталявана ніводнай відэакамеры. Адміністрацыя толькі-толькі скончыла чарговы касметычны рамонт і збіралася набываць тэхніку відэаназірання.

**Алесь Пілецкі**

# Раскрываецца крывавая таямніца 1991-га

**Сем літоўскіх мытнікаў былі тады забітыя рыжскімі амонаўцамі. Пачаўся суд над адным з забойцаў.**

Літоўскія следчыя перадалі ў суд справу першага затрыманага па абвінавачванні ў тым забойстве пад Меднікамі. Разня мытнікаў, што падпарадкоўваліся Вільні, а не Маскве, жахнула беларуска-літоўскае памежжа.

Па словах пракурора, для забойства сфармавалі групу з трох рыжанаў, у склад якой уваходзілі Канстанцін Міхайлаў, Андрэй Лакціёнаў і Аляксандр Рыжоў. Загад аддаў камандзір рыжскага АМАПа Чэслаў Млыннік. Напад быў здзейснены а 4-й раніцы, калі на трасе амаль няма руху.

У вагончыку былі чатыры бяззбройныя мытнікі і два супрацоўнікі літоўскага спецназа «Арас». Непадалёк стаяў аўтамабіль з двума супрацоўнікамі дарожнай паліцыі — Юзасам Янонісам і Альгірдасам Казлаўскасам. Міхайлаў стрэліў у аўтамабіль. Дзве кулі трапілі Янонісу ў жывот.

Тым часам Лакціёнаў і Рыжоў загналі памежнікаў у вагончык, паклалі на падлогу і забівалі стрэламі ў патыліцу.

Памежнікі Антанас Мусцейкіс, Станісловас Арлавічус, служачыя Альгімантас Юозакас, Міндаўгас Балавакас, работнікі ДАІ Юозас Янsocial і Альгірдас Казлаўскас загінулі на месцы. У шпіталі памёр цяжкапаранены міліцыянт Рычардас Рабавічус.

Міхайлаў пакуль адзін паўстаў перад судом. Іншых Расія не выдае. Ён быў затрыманы ў 2007 годзе ў Латвіі і перададзены Літве.

Каля віленскай трасы пад Меднікамі дагэтуль стаіць вагончык, які стаў музеем. А Томас Шарнас — адзіны мытнік, які выжыў, хоць яму прастрэлілі галаву, — стаў пратэстанцкім пастарам.

**Сяргей Гезгала**

## Здарэнні сцісла

- **Адсочваў званкі дзяўчыны.** Каб быць у курсе, на якія нумары тэлефануе дзяўчына, хлопец скарыстаўся платнай паслугай «Інтэрнэт-памочнік». Распачатая крымінальная справа па факце несанкцыянаванага доступу да інфармацыі.
- **Паказаў порна, каб прызнацца ў каханні.** У Рагачове былы кіраўнік гуртка па ігры на гітары і вершаскладанні звінавачаны ў распаўсюдзе парнаграфіі. Ён спрабаваў схіліць да інтымнай сувязі 15-гадовую выхаванку, для чаго напісаў паэтычны твор, дапоўніўшы яго парнастужкай з інтэрнэту, і перадаў школьніцы. Тая перастала наведваць гурток. Аднак настаўнік не пакідаў яе ў спакоі. Бацькі звярнуліся ў міліцыю.
- **За нясмачную рыбу ледзь не забіў жонку.** Мужа не задаволіла якасць набытага жонкай рыбнага філе. Падчас сваркі ён схапіў паляўнічы нож... Са словаў дэбашыра, хацеў толькі напалохаць, але не разлічыў, параніў жонку ў жывот. Яна выжыла. Мужа цяпер могуць пасадзіць.

**СМ**

# Карта беларускасці краіны

Паводле звестак, атрыманых падчас перапісу насельніцтва 2009 года, складзеныя своесаблівыя моўныя мапы краіны. На іх у працэнтных суадносінах паказаная колькасць насельніцтва, якая назвала сябе беларускамоўным.

Атрыманая статыстыка не дае бездакорна праўдзівых звестак, але дакладна вызначае настрой жыхароў таго ці іншага рэгіёна.

### Тры гарадскія аазісы

Спачатку пра беларускамоўных гараджан. Іх колькасць па краіне звышнізкая — усяго 11,3%. Але і сярод гэтай змрочнай карціны можна знайсці куткі беларушчыны.

Калі паглядзець на мапу, заўважаеш выразна выдзеленыя цёмна-сінія аазісы.

Тут размаўляюць па-беларуску найбольш. Першы — глыбоцкі-шаркаўскі, вакол якога сабралася пяць раёнаў, дзе колькасць беларускамоўных гараджан большая за 50%, а часцяком і за 60%. Другі востраў — іўеўска-валожынскі — знаходзіцца на мяжы Мінскай і Гродзенскай абласцей. Радзіма Зянона Пазняка па-ранейшаму сведчыць пра сваю беларускасць! Трэці ж размясціўся на паўднёвым захадзе Міншчыны — вакол Нясвіжа і Клецка, захапіўшы з сабой і Ляхавіцкі раён.

### Паўднёвы правал

Цяпер што да кожнай вобласці.

Правальнай у плане беларускасці выглядае Гомельшчына.

Тут няма ніводнага раёна, дзе колькасць апытаных, якія назвалі сябе беларускамоўнымі, дасягнула хаця б 50%. Дарэчы, падчас перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі нацыянальна арыентаваныя кандыдаты заўважалі, што менавіта гэтая вобласць дае зусім маленькія лічбы сабраных подпісаў.

На Магілёўшчыне аазісамі беларушчыны з'яўляюцца раскіданыя па краях вобласці глухія, неўрбанізаваныя Краснаполле, Круглае і Глуск, дзе колькасць беларускамоўных дасягае 50–60%. А вось Віцебшчына, калі ехаць ад Смаленска ў бок Латвіі, робіцца ўсё больш беларускай — ад абласнога цэнтра, дзе беларускамоўных менш за 5%, да ўжо названай рэкорднай Шаркаўшчыны.

На Брэстчыне вельмі русіфікаваны абласны цэнтр — у савецкі час буйная вайсковая база. Тут, у Брэсцкім і Камянецкім раёнах, паказчык не дацягвае і да 5%. Сітуацыю ратуюць Ляхавіцкі і Ганцавіцкі раёны.

Мінск і Гродна паказалі ад 5 да 10% беларускамоўных, але ў параўнанні з іншымі вялікімі гарадамі гэта выглядае годным паказчыкам, бо астатнія абласныя цэнтры і Бабруйск не набіраюць і 5%.

Менавіта гродзенска-мінскую мяжу можна лічыць цэнтрам гарадской беларускасці. Землі, на якіх утваралася Вялікае Княства Літоўскае, найбольш супраціўляюцца русіфікацыі.

### Прапарцыйная беларускасць

Агульная колькасць вясковага насельніцтва, якое назвала сябе беларускамоўным, складае 58,3%. Вось толькі вяскоўцаў засталося нашмат менш за гараджан.

Мапы выглядаюць падобнымі, бо ў іх захоўваецца тэндэнцыі — вяскоўцы па ўсёй краіне больш беларусіфікаваныя за гараджанаў, але гэты рост прапарцыйны. Напрыклад, дзе налічылі 20% гараджан, там робіцца 40–50% вясковага. Таму цалкам лагічна, што такія самыя «рэкардсмены» — глыбоцкае Паазер'е, правае Панямонне і гістарычныя Нясвіжчына і Случчына.

У некаторых раёнах там колькасць беларускамоўнага вясковага насельніцтва перавышае 90% — паказчык аднамоўнай аднанацыянальнай дзяржавы.

**Віталь Несцераў**







## Міністр культуры — у галерэі «Ў»




Там Павел Латушка правёў пасяджэнне калегіі міністэрства.

Яно было прысвечана дзяржаўна-прыватнаму партнёрству і развіццю праектнай дзейнасці ў сферы культуры. Галерэя была выбрана, каб прадэманстраваць гатоўнасць да супрацоўніцтва найперш з боку дзяржструктур.

Дарэчы, кампанія «Трайпл» адновіць дом, у якім жыў у Мінску Максім Багдановіч. «Прыёрбанк» спансаруе сёлетні ўдзел беларускіх мастакоў у Венецыянскай біенале.

**Сяргей Макарэвіч**

## «Я ж беларус, чаму я павінен размаўляць на чужой мове?»




Уладзіслаў Занкавец (злева) са сваім татам Эдуардам, трэнерам зборнай.

Хакеіст Уладзіслаў Занкавец хоча перайсці на беларускую мову.

— Мне вельмі хочацца навучыцца думаць і размаўляць па-беларуску, — прызнаўся гулец салігорскага «Шахцёра» і сын галоўнага трэнера зборнай Беларусі ў інтэрв'ю парталу Goals.by, калі гаворка зайшла пра патаемную мару. — Апошнім часам імкнуся думаць на роднай мове, — расказаў ён. — Да гэтага варта імкнуцца. Я ж беларус, чаму я павінен размаўляць на чужой мове?

**СГ**

ПРАВЕРАНА НА САБЕ

## Тэхпашпарт па-беларуску — цяпер рэальнасць

Па-расейску дакумент робяць максімум суткі, па-беларуску рабілі… 18 дзён!

«Я захацеў, каб мае дакументы на машыну былі беларускамоўныя. Жыву ў Беларусі, размаўляю па-беларуску — чаму не?» — піша на сваім сайце ўінтэрнэце журналіст Глеб Лабадзенка.

Беларускамоўнае пасведчанне кіроўцы ўдалося аформіць у ДАІ за дзве гадзіны, піша ён, а вось з беларускамоўным тэхпашпартам узнікла каласальная праблема.

«Я звярнуўся ў пункт афармлення на вуліцы Сярова для пастаноўкі машыны на ўлік. Здаючы дакументы ў акенца, адзначыў, што прашу выдаць мне тэхпашпарт па-беларуску.

— Ну не ведаю, — паціснуў плячыма супрацоўнік. — Мы яшчэ нікому не выдавалі, праграма толькі па-руску робіць...

Я звярнуў ягоную ўвагу, што, папершае, паводле Канстытуцыі ў нас дзве дзяржаўныя мовы, і я магу абіраць любую. Па-другое, у маім імені і прозвішчы няма ўласнабеларускіх знакаў (апострафа, літар «і», «ў») — таму не бачу праблемы. Мне прызначылі з'явіцца па дакумент на наступны дзень».

Назаўтра, калі журналіст збіраўся ехаць па тэхпашпарт, яму паведамілі, што выдача адкладаецца на дзесяць дзён.

«Тэлефаную ў гарадскую ДАІ — кажуць, па камп'ютары вынікае, што вашая машына на ўлік яшчэ не пастаўленая. Адзін за другім мяне накіроўваюць да СЯМІ розных начальнікаў. Ні ў каго працоўны тэлефон не адказвае. Нарэшце ўдалося звязацца з намеснікам начальніка Рэспубліканскай ДАІ Сяргеем Комарам. Ён звязаўся з МРЭА — і справа нібыта зрушылася».

Тэхпашпарт па-беларуску Лабадзенка атрымаў на васямнаццаты дзень. Аднак праблема кардынальна не вырашаная, піжа журналіст. Тэхпашпарт на мове быў зроблены ўручную.

«Зразумець гэта можна — навошта перарабляць праграму, калі звярнуўся адзін чалавек? Напэўна, калі многія людзі выкажуць такое жаданне, адказныя супрацоўнікі будуць вымушаныя ўнесці ўдакладненні ў камп'ютарную праграму», — піша Глеб Лабадзенка.

**Паводле Labadzenka.by**

## Бацькі ў Сухараве дамагаюцца беларускамоўнага садка

У сталічным мікраараёне створаны бацькоўскі камітэт грамадзян, якія хочуць, каб іх дзеці выхоўваліся ў беларускамоўных садках.

Для стварэння камітэта ёсць прычыны. У садку №570 узбуйнілі беларускамоўную групу і дабралі ў яе дзяцей пяці-шасці гадоў, а на базе садка №561 адкрылася беларускамоўная група. «Аснову гэтай групы склалі 12 дзяцей, бацькі якіх напісалі заявы, каб іх дочкі і сыны выхоўваліся па-беларуску. Пазней да гэтай групы далучылі яшчэ дзевяць чалавек, якіх дабіралі загадчыца дашкольнай установы і яе выхавальнікі, угаворваючы бацькоў», — расказалі ў Таварыстве беларускай мовы (ТБМ).

Старшыня ТБМ Алег Трусаў выказаўся за стварэнне такіх бацькоўскіх камітэтаў ва ўсіх рэгіёнах.

**Марат Гаравы, БелаПАН**

# Пратэст супраць росту цэн

Кіроўцы збіраюцца заблакаваць цэнтральныя вуліцы ў Мінску і яшчэ дзевяці гарадах.

Арганізатары акцыі «Стоп-бензін» прапануюць перакрыць рух па цэнтральных вуліцах у дзесяці гарадах краіны.

У інтэрнэце і сярод кіроўцаў пашыраецца інфармацыя пра акцыю пратэсту супраць павелічэння цэн на бензін і дызпаліва. Акцыя адбудзецца 14 красавіка ў Мінску і як мінімум дзевяці іншых гарадах краіны і пройдзе ў два этапы.

Кіроўцы прапануюць у 19.30 перакрыць цэнтральны праспект кожнага з дзесяці гарадоў. Напрыклад, у Мінску аўтамабілісты пад'едуць з розных бакоў на плошчу Незалежнасці і з уключанымі аварыйнымі агнямі рушаць у бок Нацыянальнай бібліятэкі з хуткасцю 30 км/г. Будзе перакрытая ўся праезная частка, апроч паласы грамадскага транспарту.

Са словаў старшыні аргкамітэта па стварэнні грамадскага аб'яднання «За аўто» Арцёма Шаркова, акцыя завяршыцца перадачай звароту кіроўцаў кіраўніку дзяржавы.

Чаму абраная дата 14 красавіка, а не, напрыклад, сёння альбо заўтра? Рэч у тым, што 11 сакавіка, пасля першага павышэння кошту бензіну, кіроўцы перадалі зварот са сваімі патрабаваннямі ў «Белнафтахім», Адміністрацыю прэзідэнта і Савет міністраў. Да 11 красавіка ініцыятары звароту чакаюць афіцыйны адказ, а праз тры дні выязджаюць на акцыю пратэсту.

**Віталь Несцераў**



СЯМЁН ПЕЧАНКО

**Ад 31 сакавіка другі раз за месяц падаражэла паліва. Пра падаражанне стала вядома за паўдня, і адразу на мінскіх запраўках выцягнуліся даўжэзныя чэргі.**

**Патрабаванні кіроўцаў**

1. Прыпыніць рост адпускных цэн на паліва.
2. Дамагчыся прадастаўлення канцэрнам «Беннафтахім» калькуляцыі фармавання адпускных цэн на паліва.
3. Дамагчыся праўдзівага тлумачэння ранейшых падаражанняў.
4. Дамагчыся пазбаўлення «Белнафтахіма» манапольнага права на рэгуляванне паліўнай сферы ў Беларусі, што прынясе значнае зніжэнне кошту бензіну.
5. Уключыць прадстаўніка грамадскасці ў якасці назіральніка ў склад камісіі па паліўна-энергетычным комплексе палаты прадстаўнікоў.
6. Стварыць грамадска-кансультатыўную Раду пры Прэзідыуме Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, куды ўключыць прадстаўнікоў грамадскасці, урада, канцэрна «Белнафтахім», палаты прадстаўнікоў, Камітэта дзяржаўнага кантролю і Адміністрацыі прэзідэнта.

# За абразы Захарава на адрас «Нёмана» трэнер гродзенцаў паабяцаў зламаць яму нос

Скандалам скончылася пасляматчавая прэс-канферэнцыя трэнераў хакейных клубаў «Юнацтва» (Мінск) і «Нёман» (Гродна).


**Міхаіл Захараў — не самы папулярны трэнер.**


**Трэнер «Нёмана» Дзмітрый Краўчанка раней быў судзімы за супраціў міліцыі пры затрыманні пасля бойкі ў рэстаране.**

Нагадаем, што мінчукі заваявалі медалі нацыянальнага чэмпіянату шосты раз, выйграўшы ў гродзенцаў серыю з лікам 4:2.

Трэнер «Юнацтва» не выйшаў на цырымонію паціскання рук, а ў часе прэс-канферэнцыі дазволіў сабе абразлівыя выказванні на адрас сапернікаў.

«Я наогул там каманды не бачыў. Больш смешнай за яе ў плэй-оф яшчэ не было. Яны да брамы даехалі хоць раз сёння? Ні аднаго моманту. (...) «Нёман» выйграў столькі матчаў, колькі мы вырашылі. Мне сорамна за іх. Увесь плэй-оф мы гулялі з імі ў «коткі-мышкі». Больш бяззубай і слабай каманды ў плэй-оф я яшчэ не бачыў», — цытуе Міхаіла Захарава «Прэсбол».

Трэнер «Нёмана» Дзмітрый Краўчанка пры гэтым не прысутнічаў, да журналістаў ён выйшаў пасля Захарава. «Я не быў сведкам гэтага, мне цяжка каментаваць.

Калі б Міхал Міхалыч апынуўся сам-насам са мной, то ён бы моцна пашкадаваў аб сказаным. Але вы не ўяўляеце, як у яго трэсліся рукі перад гульнёй. Калі Захараву ёсць што сказаць, то хай гэта зробіць адзін на адзін, таму што пры сведках я біцца не буду. Гэта я не проста так кажу — нос бы я яму зламаў дакладна.

Ён чалавек пагардлівы. Можа, гэта ў чымсьці і добра, але гуляе не ён, а яго падапечныя. І гэтыя словы сказалі не хакеісты, а трэнер. Паказваючы свае слабыя бакі, ён ад гэтага мацнейшым не становіцца. Ён зняважыў хакеістаў у каманду грашыма і сталічнай прапіскай. Заўважце, усе хварэюць не супраць «Юнацтва», а супраць Захарава. Але я не хачу нічога дрэннага казаць пра яго. Тым больш за вочы. Хачу сказаць дзякуй камандзе «Юнацтва» без трэнера. Гэта годныя хлопцы, яны нездарма выйгралі Кантынентальны кубак».

**Сямён Печанко**

«Юнацтва» заваявала золата чэмпіянату Беларусі шосты раз, выйграўшы ў гродзенцаў серыю з лікам 4:2.

# Стан кардынала Свёнтка застаецца цяжкім

Мітрапаліт Кандрусевіч: «Цяжкая сітуацыя — аперацыя на сцягне і аперацыя на страўніку адначасова».

10 сакавіка ксёндз-кардынал Казімір Свёнтак, былы мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, другі раз зламаў шыйку сцягна. За тыдзень пасля паўторнага пералому сцягна кардынал перанёс дзве аперацыі.

Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч расказаў «Нашай Ніве», што стан кардынала Свёнтка застаецца цяжкім: «Я кожны дзень тэлефаную ў шпіталь. Дактары спадзяюцца, што ўсё будзе добра. Цяжкая сітуацыя — гэтая аперацыя і аперацыя на страўніку, наркоз.... Мы сустракаліся з ім 7 сакавіка, ён быў радасны, жартаваў. У маі 2010-га ён перанёс вельмі цяжкую аперацыю (першы пералом шыйкі сцягна), але трымаўся. Перасоўваўся з дапамогай такога невялікага століка, на які абапіраўся. І вось здарылася новая бяда...»

Летась 19 мая кардынал Свёнтак першы раз зламаў сцягно — спатрэбілася доўгае лекаванне ў Пінску і пасля ў Любліне. І вось на пачатку сакавіка бяда вярнулася: костка зламалася ў тым самым месцы. Цяпер кардынал знаходзіцца ў пінскім шпіталі.

«Вельмі моцная хваля падтрымкі ад вернікаў. Пра бяду на сайце мы паведамілі а першай гадзіне дня, а ўвечары таго ж дня памаліцца за здароўе кардынала прыйшло амаль столькі ж вернікаў, колькі бывае ў нядзелю. Цяпер усё залежыць ад Бога і дактароў», — кажа мітрапаліт Кандрусевіч.

**Юрась Ускоў**


PHOTO.BYMEDIA.NET

# Батура даў сто мільёнаў на аднаўленне царквы ў Бабры

Храм з унікальнымі фрэскамі Пушкіна загадкава згарэў у лютым.

Старшыня Мінаблвыканкама даручыў выдзеліць 100 млн рублёў на аднаўленне царквы ў мястэчку Бобр Крупскага раёна.

Баброўская царква згарэла 17 лютага ўначы. Прычына — нібыта, пакінутая ўключанай ацяпляльная прылада.

Гэты храм быў адметны сваімі фрэскамі на сучасныя сюжэты. Яго распісваў мастак Алесь Пушкін, які і жыве ў Бабры. Там на сценах доўгі час можна было пабачыць персанажаў, падобных да Лукашэнкі, Філарэта, амонаўцаў, якія дубінкамі адмахваліся ад анёлаў. Царкву нават не хацелі асвячаць, пакуль пэўнага вусатага персанажа не замалявалі.

Барыс Батура наведаў Бобр у той самы дзень, калі адбыўся пажар, — 17 лютага.

Паводле словаў Пушкіна, грошай, выдаткаваных Мінаблвыканкамам на рамонт, хопіць толькі на тое, каб накрыць дах і атынкаваць будынак.

Распісваць аднаўленую царкву Пушкіну пакуль не прапанавалі.

**Кастусь Матушыч**





# Песня для Еўрабачання — плагіят з «Сектара газа»?

**Музыка Аляксандр Кулінковіч супакойвае: гэта распаўсюджаны матыў.**

У рэдакцыю «Нашай Нівы» напісаў чытач, які падзяліўся сваімі ўражаннямі ад песні Настассі Віннікавай «Я люблю Беларусь» (I love Belarus). На яго думку, аўтары музыкі выкарысталі песню панк-гурта «Сектар газа» «Гуляй, мужык». Для параўнання наш чытач прапанаваў невялікі трэк, у якім злучыў у адно фрагменты прыпеваў дзвюх песень.

Слухаем. І сапраўды — падабенства відавочнае.

Мы прапанавалі паслухаць дасланы чытачом трэк лідару гурта «Нейра Дзюбель» Аляксандру Кулінковічу. Азнаёміўшыся з ім, музыка вынес вердыкт: «Адназначна гэта адна і тая ж мелодыя». І тут жа супакоіў, зазначыўшы, што цалкам упэўнены ў адсутнасці плагіяту з боку аўтараў музыкі да песні «Я люблю Беларусь». «Гэта настолькі простая і распаўсюджаная мелодыя, што мы можам лёгка адшукаць не адну песню з вельмі падобным матывам, — падкрэсліў Кулінковіч. — Тут, як у блюзе ці рок-н-ролє, дзе часта сустракаюцца падобныя рыфы. Усё ж гэта не Yesterday ці Let it be з іх класічнымі і складанымі мелодыямі».

Нагадаем, што на сёлетнім «Еўрабачанні» ў нямецкім Дзюсельдорфе нашу краіну прадставіць студэнтка Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта Настасся Віннікава. Конкурсная песня некалькі разоў змяняла назву — ад скандальнай Born in Bielorussia да нейтральнай I love Belarus.

**Сямён Печанко**

## Яўген Алейнік: Толькі беларусы могуць тапіць адзін аднаго

**Аўтар песні для «Еўрабачання»: «Я ў жыцці не чуў «Сектара Газа».**

«Я ў жыцці не чуў песні гурта «Сектар Газа», можаце мне паверыць», — заявіў «НН» аўтар песні для «Еўрабачання» Яўген Алейнік. Ён падкрэсліў, што для абвінавачанняў у плагіяце трэба параўноўваць ноты і запэўніў, што мелодыя песні «Я люблю Беларусь» — арыгінальная.

«Гэта ўжо робіцца смешным. Ні ў адной краіне свету такога няма. Толькі ў нас такое: беларусы топяць сваіх жа беларускіх выканаўцаў. Пачынаючы з самага першага нашага выступлення на конкурсе, і да песні Насці. Адно магу сказаць — няхай ім будзе сорамна», — абураецца Яўген Алейнік.

Па яго словах, усё пачалося з першай прэзентацыі песні ў Лінгвістычным універсітэце на закрытым паказе, калі потым «нейкія добрыя людзі» выклалі відэа песні са старой яшчэ назвай Born in Bielorussia ў сеціва.



Ён кажа, што ўсе гэтыя гісторыі вакол ягонай песні для «Еўрабачання» яму моцна надакучылі: «Калі ў кагосьці яшчэ ёсць нейкія прэтэнзіі, гатовы разглядзець іх у судзе».

**СП**

# Пракаповіч падаў прашэнне пра адстаўку

**Гэты першакрасавіцкі жарт пабіў рэкорды наведвальнасці на сайце «Нашай Нівы».**

Рэдакцыя апублікавала яго ў 0.30, і а 9-й ранку яго ўжо прачыталі больш за 10 000 чалавек. «Дзякуй, пасмяяўся перад цяжкім днём», — пісалі людзі ў каментарах.

Як вядома, 31 сакавіка віцэ-прэм'ер урада Румас нечакана заявіў, што абвешчаный Нацбанкам 10-працэнтавай дэвальвацыі недастаткова. Гэта была першая за доўгі час публічная крытыка Героя Беларусі, будаўніка-банкіра Пятра Пракаповіча.

Аздараўленне беларускіх фінансаў — адна з умоваў, якія выставіла Расія для выдзялення Беларусі 3-мільярднага крэдыту, без якога беларускай гаспадарцы шчвах.

**Сяргей Гезгала**




PHOTO.BYMEDIA.NET

# Людміла Гурчанка: савецкая непяцiканцовая зорка

Яна адносілася да тых постацяў, якія, здаецца, будуць вечнымі: ніхто дакладна не памятае, колькі ім гадоў.

Ёй было 75 гадоў. Яна адышла ў Маскве ў мінулую сераду ў сябе дома.

У лютым Гурчанка зламала сабе сцягно. Гэта здарылася на слізгаце, калі яна выгульвала сабак. Церазверцельны пералом цяжка паддаецца лекаванню.

30 сакавіка Людміле Гурчанка стала дрэнна, ёй выклікалі хуткую дапамогу, аднак лекары выратаваць жыццё актрысы не змаглі.

Людміла Гурчанка ігрaла ў тэатры і кіно, а таксама спявала. Яна была адной з самых яркіх постацяў савецкага шоу-бізнэсу.

Яна нарадзілася ў 1935 годзе ў Харкаве, у сям'і з яўрэйскімі каранямі. Вядомай стала зусім юнай, у 21 год. Тады яна знялася ў дэбютнай навагодняй камедыі Эльдара Разанава «Карнавальная ноч» — лёгкай, вясёлай гісторыі, што з'явілася ў часе, калі імперыя скідала з сябе ледзяны панцыр сталінізму.

У 48 гадоў яна стала народнай артысткай СССР — найвышэйшы ганаровы тытул для актрысы. Усяго яна знялася ў 96 фільмах.

Але найлепшым застаўся той першы — «Карнавальная ноч», які вось ужо 55 гадоў спраўна глядзяць на Новы год.

У сваім жыцці Людміла Маркаўна пабачыла ўсякага. І паспела апісаць колы свайго залатога пекла ў шэрагу аўтабіяграфій. Сваё жыццё яна характарызавала як узлёт, падзенне і зноўку ўзлёт.



**Такой Людміла Гурчанка запомнілася з «Карнавальнай ночы».**



**А такой яна сябе стварала ў 70 гадоў.**

У перыяд застою Гурчанка атрымала прапанову супрацоўнічаць з КДБ (якраз напярэдадні фестывалю моладзі ў Маскве), але актрыса не згадзілася.

Дуэтам з Андрэем Міронавым яна запісала ледзьве не адзіны рэгтайм у гісторыі савецкай музыкі — «Стары грамафон», у найлепшых традыцыях «музыкі тоўстых». Пасля была перапеўка «Маскоўскіх акон», якую Гурчанка выканала так, што «закрыла» нават Леаніда Уцёсава.

Усё жыццё Гурчанка нібы кідала выклік, не заўжды зразумела, каму накіраваны. Яна пяць разоў выходзіла замуж, у тым ліку і за Іосіфа Кабзона, які гэтую частку свайго жыцця ўзгадваць не любіць, відаць, мае на тое прычыны. З іншымі шлюбамі атрымалася не лепш — характар у Людмілы Маркаўны быў сапраўды «зорны». Яна імкнулася быць сапраўднай зоркай у краіне, дзе галоўнай зоркай была пяцiканцовая чырвоная.

У 1991 годзе Гурчанка знялася ў першым расійскім эратычным фільме «Сэк-с-казка» ў ролі д'ябла, і вельмі ганарылася гэтым фільмам.

Спыняцца Гурчанка не збіралася — яна рабіла пластыкі адну за адной, выходзіла на сцэну ў абсалютна неверагоднай вопратцы. Яна жыла, як іграла. Апраналася ў пёры і стразы. Пугачова пра яе спявала песню «Прымадонна», і яна выходзіла на сцэну ў гэтым вобразе. Яна адмаўлялася старэць, але гераіню «Карнавальнай ночы» у ёй было ўжо не пазнаць.

**Юрась Ускоў**

# Неймаверная Амерыка
## III. Новая антычнасць Вашынгтона

Нататкі **Зьмітра Панкаўца** са Злучаных Штатаў.

**Працяг. Пачатак у № 10, 11.**

### Горад Сонца

Вашынгтон пачаў будавацца пры канцы XVIII стагоддзя. Амерыка ў той час перажывала эпоху крызісу і нестабільнасці, звязаных з вайной за незалежнасць. Сталіца тады знаходзілася ў Філадэльфіі. У 1783 годзе здарыўся «Пенсільванскі мяцеж», калі салдаты ўварваліся ў будынак Кангрэса, патрабуючы большых выдаткаў на вайну. Губернатар Пенсільваніі адмовіўся выдаліць мяцежнікаў з горада, тым самым паралізуючы працу парламентароў. У выніку Кангрэс быў вымушаны збегчы з Філадэльфіі.

Менавіта тады і было прынятае рашэнне аб будаўніцтве новай сталіцы, якая б не залежала ад улады штата. Месцам будаўніцтва была абраная мяжа штатаў Вірджынія і Мэрыленд. Першапачаткова горад меў абрысы правільнага квадрата.

Выглядае на тое, што будаўнікі Вашынгтона ад самага пачатку марылі пабудаваць свой ідэальны Горад сонца. Данесці праз архітэктуру і планіроўку ясныя ідэі свабоды, справядлівасці, адзінства, дабрачыннасці. Вашынгтон поўніцца рознымі відавочнымі і не вельмі знакамі, сімваламі, загадкамі. Архітэктары былі натхнёныя ідэямі новай антычнасці, якая праз шмат стагоддзяў пасля еўрапейскай адрадзілася за акіянам.

Таму і многія мясцовыя помнікі нагадваюць сабой старажытную Грэцыю. Напрыклад, мемарыял Аўраама Лінкальна. Ён абсалютна падобны да славутага Парфенона. 36 калонаў па перыметры будынка сімвалізуюць адпаведную колькасць штатаў пры Лінкальне.

Вялізны Лінкальн унутры мемарыяла ўзіраецца ў бок Капітолія. Загадкай застаецца аблічча на патыліцы помніка. Каму яно належыць? Адны кажуць, што гэткім арыгінальным чынам архітэктар зрабіў свой аўтограф. Іншыя схіляюцца да думкі, што гэта мог быць генерал Роберт Лі, кіраўнік войскаў Поўдня ў часы Грамадзянскай вайны.

Справа ў тым, што гэты твар углядаецца ў той бок, дзе месціўся дом генерала. А яшчэ гэтае таямнічае аблічча бачнае толькі з паўднёвага боку мемарыяла. Ну і ўрэшце, хто мог яшчэ сядзець у галаве ў Лінкальна, як не генерал Лі?

У Вашынгтоне вялізны распаўсюд мелі масонскія ложы. Нават адмысловыя цэрквы масонскія ёсць у горадзе па сёння.



**Мемарыял Лінкальна пабудаваны на ўзор грэчаскага Парфенона. Будаўнікі Вашынгтона, як і стваральнікі Злучаных Штатаў, хацелі дабіцца ідэальна гарманічнага горада і дзяржаўнага ладу.**




**Жыхары Вашынгтона плацяць федэральныя падаткі, але не маюць сваіх кангрэсменаў. Так склалася гістарычна.**



**Узвод амерыканскіх салдат спрабуе выбрацца з балотнай сцяжыны. Помнік ахвярам вайны у Карэі. Амерыканскія ваенныя помнікі найперш апелююць да спачування, а не да гонару.**

### Хмарачосы, ФБР, мемарыялы

У сталіцы ЗША забаронена будаваць дамы вышэйшыя за Капітолій, г.зн. за 12 паверхаў, таму ў горадзе абсалютна няма хмарачосаў. Затое па іншы бок ракі Патамак (у літаральным перакладзе рака Рака) хмарачосы ўзвышаюцца. Справа ў тым, што Вірджынія праз нейкі час запатрабавала землі, выдадзеныя ёй для федэратыўнай сталіцы, назад у свае ўладанні. Бо Вірджынія згубіла рачны порт, які прыносіў вялікія прыбыткі. Давялося гэтыя землі аддаваць. Зрэшты, па той бок ракі ходзіць метро. Тамсама месціцца Пентагон — Міністэрства абароны ЗША.

З агульнага гарадскога архітэктурнага ансамбля выбіваецца хіба што толькі будынак ФБР — той самы, дзе працавалі славутыя героі телесерыяла «Сакрэтныя матэрыялы» Малдэр і Скалі. Аграмадны будынак размешчаны на паўдарозе паміж Белым домам і Капітоліем. Самі вашынгтонцы смяюцца, што ён выкананы ў стылі бруталізму, і называюць яго бяльмом у воку Вашынгтона.

У горадзе ёсць невялікі «чайнатаўн». Гэта літаральна некалькі кварталаў. У асноўным тут месцяцца кітайскія, тайскія, мангольскія рэстараны. Некаторыя гандляры проста на вуліцы могуць засмажыць табе качку. Такая сабе экзотыка. Азіятаў тут далёка не больш.

Калі ўжо спыняць гаворку на архітэктурных асаблівасцях Вашынгтона, то варта згадаць пра ваенныя мемарыялы. У адрозненне ад беларускіх, яны тут зусім не пампезныя. Яны маўклівыя, сціплыя. Зусім побач адзін ад аднаго знаходзяцца мемарыялы ў гонар ахвяр войнаў у Карэі і В'етнаме.

Узвод з дзевятнаццаці амерыканскіх салдат прабіраецца па заблытанай балотнай сцяжыне ў Карэі. Усе яны адлюстроўваюцца ў чорнай гранітнай сцяне насупраць. Глядзячы на гэтых салдат і іхнія адбіткі, робіцца жудасна.

Што датычыць мемарыяла вайны в'етнамскай, то яго часта называюць проста сцяной. На ёй выбітыя імёны загінулых і зніклых у В'етнаме. Усяго на 75-метровай сцяне запісаны прозвішчы 58 тысяч чалавек.

Аўтарам гэтай скульптурнай кампазіцыі была 21-гадовая студэнтка азіяцкага паходжання Мая Лін. Яна перамагла больш за тысячу іншых прапанаваных праектаў. Цікава, што ў сваім універсітэце студэнтка Лін атрымала «двойку» за праект сцяны. А вось у нацыянальным конкурсе выйграла.

Гэты помнік знаходзіцца крыху ніжэй узроўню дарогі. Тым самым амерыканцы нібыта кажуць, што не ганарацца той вайной, не лічаць яе дастойнай, а сябе ў ёй — пераможцамі.

### Асаблівасці амерыканскага федэралізму

Прэзідэнт ЗША не можа трапіць у будынак Капітолія (там месціцца Сенат і Кангрэс) без адмысловага запрашэння, там няма ягоных партрэтаў. Прэзідэнт выступае ў Капітоліі толькі ў адмысловых выпадках. Гэткім чынам падкрэсліваецца перавага заканадаўчай улады перад выканаўчай.

Сімвалічна нават тое, што велічны Капітолій узвышаецца на ўзгорку, а сціплы Белы дом пабудаваны ў нізіне. То бок парламентары глядзяць на прэзідэнта зверху ўніз. Уявіце нешта падобнае ў Беларусі.

Увогуле ж, улада федэратыўнага цэнтра ў ЗША дакладна абмежаваная. Ёсць непарушныя пункты Канстытуцыі, якія выконваюцца па ўсёй краіне. Як, напрыклад, свабода веравызнання, слова, прэсы, мірных сходаў, падачы петыцый. Іх зусім нямнога. Астатняе залежыць ад мясцовых уладаў.

Так, у дзвюх трацінах амерыканскіх штатаў дазволена смяротнае пакаранне, у адной траціне — не. Але шмат дзе яно хоць і існуе, але на практыцы даўно не выкарыстоўваецца.



**Вашынгтон**

Сталіца Злучаных Штатаў Амерыкі. З'яўляецца самастойнай тэрыторыяй і не ўваходзіць у ніводны штат. Заснаваны ў 1791 у гонар Джорджа Вашынгтона. Размешчаны на беразе ракі Патамак. Насельніцтва Вашынгтона — 600 тысяч чалавек. Менавіта тут жыве і працуе прэзідэнт ЗША, а таксама дзейнічаюць Кангрэс і Сенат.

Вось толькі ў Тэхасе, радзіме Джорджа Буша, часта практыкуецца.

У штаце Вашынгтон (не блытаць з горадам) дазволеная своеасаблівая форма эўтаназіі. Лекар можа паставіць ля ложка паміраючага якісьці пузырок з надпісам: «Выпі гэта». А вось у Аклахоме за такое цябе чакае суд.

Бываюць і смешныя асаблівасці. У той самай Аклахоме цэрквы прапануюць заключаць своеасаблівыя шлюбы, калі сужэнцы прызнаюцца перад вяселлем адно аднаму ва ўсіх сваіх таямніцах і сакрэтах. Такі шлюб можа быць скасаваны толькі праз пяць гадоў.

Прастытуцыя дазволеная толькі ў Невадзе. Але не ў Лас-Вегасе, бо там лічыцца, што ўсе грошы чалавек мусіць траціць на казіно, а не на іншыя слабасці.

Юта — адзіны штат, дзе няма падатку на алкаголь. Справа ў тым, што там у большасці жывуць мармоны. А вызнаўцы гэтага адгалінавання хрысціянства не хочуць зарабляць на грахах, таму і не ўводзяць падатак.

У Каліфорніі дазволена вырошчваць марыхуану ў мэтах лекавання. Прычынай для выпіскі такога рэцэпта можа быць банальны стрэс. У часы прэзідэнта Буша-малодшага паліцыя спрабавала змагацца з такой з'явай, а вось прэзідэнт Абама заплюшчвае вочы.

У Фларыдзе можна галасаваць за тры тыдні да выбараў, а ў Індыяне толькі ў асноўны дзень.

Вядома, на федэральным узроўні прымаецца мноства праграм, але гэта ўжо справа кожнага штата, згаджацца з ёй ці не. Гэта і ёсць перадача ўлады зверху ўніз.

Што датычыць асаблівага статуса Вашынгтона, то тут не абышлося без казусу. Сталіца не мае сваіх прадстаўнікоў у Кангрэсе. Цяпер у горадзе часта можна сустрэць рэкламы кшталту: «Летась мы сплацілі столькі і столькі падаткаў. Мы думаем, гэтага дастаткова, каб да нашага голасу прыслухаліся».

## Хрысціяне і мусульмане пад адным дахам

Ці не першае, што кідаецца ў вочы ў Вашынгтоне, — гэта вялізная, проці Мінска, колькасць храмаў. Самых розных — вялікіх і малых, баптысцкіх і каталіцкіх, яўрэйскіх і праваслаўных. Нездарма ж нават на амерыканскім даляры напісана: «На Бога мы спадзяёмся». І ўсе ўмудраюцца жыць абсалютна мірна.

Хаця ў нашага маладога экскурсавода Джона, што паказваў нам невялічкую прэзідэнцкую царкоўку каля Белага дома, выпадкова вырвалася: «Толькі адзін прэзідэнт Кенэдзі не быў хрысціянінам». Вось такое ў пратэстантаў успрыманне каталікоў.

У гэтым шэрагу бажніц асаблівае месца займае Кафедральны сабор. Яго пачалі будаваць яшчэ ў 1907 годзе. Але канчаткова скончылі толькі ў 1990-м, пасля Рэйгана. Гэты храм, выкананы ў неагатычным стылі, з'яўляецца шостым па велічыні ў свеце.

Сабор будаваўся як міжканфесійны. Такім ён застаецца і цяпер, хоць большасць службаў — англіканскія. Свае набажэнствы тут спраўляюць і юдэі, і мусульмане. Вось ужо гэты мультыкультуралізм!

Тут ёсць асобная дзіцячая капліца з міні-арганамі. У крыпце сабора пахаваны прэзідэнт ЗША Вудра Вілсан. Праўда, пазнакі пра ягонае прэзідэнцтва на надмагільнай пліце няма.

На адной з цэркваў Вашынгтона бачыў вясёлкавы сцяг і надпіс: «Рады вас вітаць у нас». А вось у Расейскую праваслаўную царкву зайсці не ўдалося — была зачыненая. Кажуць, што мясцовы бацюшка — аматар зазірнуць у бутэльку.

## Трыццацігадовы пікет

У Вашынгтоне я жыў на Масачусэтс-авеню. На гэтым праспекце месціцца большасць пасольстваў, што акрэдытаваныя ў Штатах. Нават такіх экзатычных дзяржаў, як Трынідад і Табага і Каба-Вердзі. А вось будынак пасольства Ірана шмат гадоў пустуе. ЗША не мае дыпламатычных адносінаў з гэтай краінай. Праўда, будынак ніхто не забірае. Бо ён ва ўласнасці Ірана. Няма і пасольства Кубы. Іх інтарэсы прадстаўляе невялікае гандлёвае прадстаўніцтва пры амбасадзе Мексікі. Затое кубінскіх рэстаранаў у Вашынгтоне шмат.

У гэтым самым квартале быў пабудаваны вялізны ісламскі цэнтр. Гэта падарунак Вашынгтону ад Саудаўскай Аравіі. У двары будынка лунаюць сцягі краін, дзе іслам — пануючая рэлігія.

Ля нунцыятуры Ватыкана амаль кожны дзень з плакатам ходзіць чалавек, які выступае супраць педафіліі ў асяроддзі ксяндзоў. Увогуле, культура грамадскага пратэсту ў ЗША вельмі высокая.

Побач з нашым гатэлем на чацвёртай вуліцы месцілася яшчэ адна гасцініца. Дык вось, за тыдзень майго жыцця ў Вашынгтоне каля гэтага будынка ні разу не спынялася акцыя пратэсту. Супрацоўнікі гатэля пратэставалі супраць кепскіх умоваў працы і маленькіх заробкаў. Хадзілі коламі каля ўваходу, крычалі лозунгі, білі ў рондалі, гукалі ў мегафоны. Шум там стаяў яшчэ той. Праўда, а 23-й вечара спыняліся. Відавочна, што адміністрацыя гатэля несла ад гэтага вялікія страты. Не здзіўлюся, калі ўладальнік будзе вымушаны пайсці на саступкі.



Капітолій стаіць на пагорку, а Белы дом у нізіне. Гэтым таксама падкрэсліваецца перавага заканадаўчай улады над выканаўчай.




У вашынгтонскім «чайнатаўне» вам прыгатуюць качку проста на вуліцы.

Самае ж моцнае ўражанне робіць пікет насупраць Белага дома. Палатка на гэтым месцы стаіць ужо трыццаць гадоў. Барадаты, увесь у татуіроўках дзядуля сядзіць на зэдліку пры палатцы, узіраючыся ў экран свайго ноўтбука. Побач з ім — старыя плакаты і расцяжкі.

Ён і падобныя да яго пратэстуюць супраць ядзернай энергетыкі і за мір ва ўсім свеце. Ёсць лозунг, напісаны па-ўкраінску, пра небяспеку Чарнобыля.

Па новых законах, прынятых пасля тэракта 11 верасня, гэты пікет маюць права разагнаць. Але ў Амерыцы паважаюць правапераемнасць законаў. Пікет пачаўся, калі такія правілы яшчэ не дзейнічалі. Таму гэты суровы чалавек абсалютна спакойна працягвае сядзець на сваім месцы, узіраючыся на Белы дом. Гэта і ёсць амерыканская прававая дзяржава.

**Вашынгтон — Мінск.**
**Працяг будзе.**



Усяго за 30 км ад Вашынгтона можна трапіць у цуд некранутай прыроды. Вадаспады Патамака — гэта нацыянальны парк з густымі лясамі і воднымі парогамі. Ад Вашынгтона да яго вядзе адмысловая прагулачная дарога. Такія будавалі за Рузвельтам у часы «вялікай дэпрэсіі». Каб людзі проста ехалі па дарозе і ні аб чым не думалі. А, па-другое, каб даць працу.




Ужо трыццаць гадоў праз дарогу ад Белага дома доўжыцца антыядзерны пікет. Яго пачала ўраджэнка Іспаніі Кансэпсьён Пачыёта. Цяпер пікет працягваюць многія іншыя людзі. Ніводнага разу супраць яго ўдзельнікаў не была ўжытая фізічная сіла.

# Вясна, якая сарвала аншлюс

Пра падзеі 15-гадовай даўніны, Мінскую Вясну—1996 піша **Андрэй Дынько**.



ВІКТАР СТРАЛКОЎСКІ

**Рэзідэнцыю Лукашэнкі бараніў спецназ. 26 красавіка, «Чарнобыльскі шлях». Міліцыі таксама было ў навінку разганяць мірных людзей.**

15 гадоў назад дэманстрантам у Мінску ўдалося затармазіць «саюзныя пагадненні з Расіяй» і звярнуць увагу свету на небяспеку аншлюсу. Быў выйграны час, была перахоплена ініцыятыва. Тыя падзеі ўвайшлі ў гісторыю як «Мінская вясна — 1996». У іх удзельнікаў дагэтуль сціскаецца сэрца пры ўспаміне.

Сімвалічна, што «Мінская вясна — 96» пачалася з адзначэння Дня Канстытуцыі, калі на мітынг сабралася больш за 3 тысячы чалавек. Пасля доўгага перыяду грамадскай пасіўнасці, пасля Ганебнага рэферэндуму гэта падавалася ўнушальным. Акцыі рознага маштабу адбыліся ў іншых гарадах Беларусі — Віцебску, Гродне, Магілёве.

### Біг-бэнг

Сапраўдны выбух здарыўся ў нядзелю 24 сакавіка.

Улады не дазволілі шэсця з нагоды 78-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Але на яго ўсё адно выйшла каля 25 тысяч чалавек. Плошчу Незалежнасці ачапілі, выхад на яе з метро перакрылі. Маніфестанты ад вакзала дварамі пратачыліся да паштамта. На зялёнае святло на пераходзе каля вуліцы Валадарскага людзі выйшлі на праезную частку праспекта Скарыны (цяпер — Незалежнасці) і больш з яе не сыходзілі. Дэманстрацыя прайшла ад плошчы Незалежнасці да Опернага тэатра. Насупраць рэзідэнцыі прэзідэнта ўпершыню ў калоне пачалі скандаваць: «Імпічмент» — гэты лозунг стане лейтматывам восені.

Мітынг прайшоў каля Оперы. Выступалі не толькі палітыкі, але і маральныя аўтарытэты.

Пазняк палохае Маскву ў інтэрв'ю самаму папулярнаму тады тэлеканалу НТВ: мы не Чачня, нас 10 мільёнаў. Расія тады акурат была завязнуўшы ў вайне на Каўказе.

На заклік Пазняка частка дэманстрантаў скіравалася да будынка Тэлерадыёкампаніі, каб дамагчыся эфіру для апазіцыі. Там адбыліся першыя сутычкі дэманстрантаў са спецпадраздзяленнямі. Тады ж быў і першы «хапун» — пасля заканчэння мітынгу, калі ўдзельнікі сталі разыходзіцца, на праспекце каля будынка КДБ. Як выявілася, гэта быў толькі пачатак грамадскага супрацьстаяння.

> Мы не Чачня, нас 10 мільёнаў.

### «Не выйдет, господа!»

Сусветныя СМІ пішуць пра Мінск. Устрывожаная маштабам пратэсту Масква пераносіць дату падпісання «саюзнай дамовы» на тыдзень. Ельцын адмаўляецца ад самога тэрміна «саюз» і публічна пераконвае: гаворка не ідзе аб паглынанні Беларусі.

У панядзелак, 25 сакавіка, адкрыццё выставы мастакоў «Пагоня» набыло характар палітычнай акцыі. Большасць твораў была прысвечана бягучай палітычнай сітуацыі ў краіне.

А ў ноч з 25-га на 26-га лідары БНФ Зянон Пазняк і Сяргей Навумчык, абвінавачаныя ў арганізацыі беспарадкаў, выязджаюць з Беларусі.

Практычна кожны дзень адбываюцца пікеты. На адным з такіх, каля расійскай амбасады, франтаўцы трымаюць лозунг «Не выйдет, господа!»

У нядзелю, 31 сакавіка, улады спехам праводзяць сваю акцыю ў падтрымку інтэграцыі з Расіяй. З усёй краіны ў Мінск на мітынг спецыяльнымі аўтобусамі звозяць народ. Мітынг адбываецца каля Палаца спорту. Невялікая група актывістаў з бел-чырвона-белымі сцягамі спрабуе пратэставаць і там. Яе разганяе міліцыя.

### Хапіла двух, каб пачаць

Наступны пік падзей — 2 красавіка, у аўторак. У гэты дзень у Маскве расійскі і беларускі прэзідэнты падпісваюць Дамову пра ўтварэнне «Супольнасці Расіі і Беларусі». Тэкст дамовы да апошняга моманту невядомы шырокай грамадскасці. У Мінску двое дэпутатаў — нават не кіраўнікі партый і фракцый, Данэйка ад лібералаў і Знавец ад сацыял-дэмакратаў — даюць у СМІ сціплую абвестку пра арганізацыю сустрэчы з выбаршчыкамі. У выніку на праспекце збіраецца 30 тысяч чалавек — пераважна студэнты, школьнікі, што характарызуе новы этап развіцця палітычнага працэсу ў Беларусі. Міліцыя не здольная стрымаць электрызаванай моладзі: шэсце абыходзіць увесь цэнтр горада.

На арэну выйшла пакаленне незалежнасці.

Пазней інфармаваныя аналітыкі адзначаць: у апошні момант праект Дамовы быў скарэктаваны ў бок захавання прыкметаў суверэнітэту Беларусі. Пачатковая версія была горшая.

### Ото быў Шлях

Апагей пратэстаў прыйшоўся на пятніцу 26 красавіка — 10-ю гадавіну катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. У шэсці, якое рухалася па праспекце Скарыны ад Акадэміі Навук, удзельнічала да 50 тысяч чалавек. У раёне плошчы Якуба Коласа адбылася правакацыя. На шляху натоўпу правакацыя паставілі некалькі міліцэйскіх «Жыгулёў». Дэманстранты перакулілі іх, пабіўшы шыбы і люстэркі, — ролю авангарда адыграла група заходнеўкраінскай моладзі, што прыехала ў Мінск з салідарнасці. Барыкаду з грузавікоў на скрыжаванні з Казлова дэманстранты рассунулі. Але на скрыжаванні з вуліцай Янкі Купалы міліцыя перагарадзіла праспект некалькімі шэрагамі цяжка ўзброенага спецназа. Людзі праявілі рэалізм, і дэманстрацыя павярнула да Оперы, пайшла па вуліцы Багдановіча да Нямігі. Каб не пусціць людзей у цэнтр, на схілах Верхняга горада ад Свята-Духавага сабора зноў



**На шлемах яшчэ былі «Пагонькі». 24 сакавіка 1996 года.**



**30 мая 1996 года: «Што яны вырабляюць?» У часе хапуна насупраць ГУМа.**

**Каляндар падзей**

- **15 сакавіка** — мітынг у Дзень канстытуцыі
- **24 сакавіка** — шматлюднае шэсце і мітынг на Дзень Волі, спроба штурму тэлецэнтра
- **25 сакавіка** — адкрыццё выставы «Пагоня»
- **31 сакавіка** — няўклюдная спроба лукашэнкаўцаў арганізаваць контрмітынг
- **2 красавіка** — шматлюднае шэсце і мітынг супраць падпісання пагадненняў з Расіяй
- **26 красавіка** — шматлюднае шэсце і мітынг «Чарнобыльскі шлях», кульмінацыя пратэстаў
- **1 мая** — шэсце сацыял-дэмакратаў, удзел асобнай калонай у афіцыёзным мітынгу на плошчы Незалежнасці
- **9 мая** — шэсце асобнай калоны нацыянал-дэмакратычна настроеных ветэранаў да плошчы Перамогі
- **14 мая** — шматтысячны пікет за вызваленне палітвязняў каля Валадаркі
- **30 мая** — шматтысячны пікет за вызваленне палітвязняў на праспекце, жорстка разагнаны
- **22 чэрвеня** — шэсце «Раздушым фашысцкую гадзіну»

пашыхтаваліся касманаўты. Моладзь атакавала іх, хутчэй дзеля прынцыпу ўжо.

Мітынг адбыўся ля Палаца спорту. Сенсацыяй стаў выступ Зянона Пазняка, які нелегальна вярнуўся ў Беларусь. Пазняк ізноў біў на страхі Масквы: у часе выступу ён заклікаў ушанаваць хвілінай маўчання памяць нядаўна забітага чачэнскага кіраўніка Джахара Дудаева. Пасля акцыі ён ізноў ляснымі сцежкамі пакінуў краіну.

А ў Мінску пачаліся першыя ў найноўшай гісторыі масавыя затрыманні. Усяго на працягу 26—27 красавіка ў турмы трапіла больш за 200 чалавек. Тады гэта сталася шокам: такога не бывала! Тады ж пачалася эпапея галадоўкі Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка, якія трымалі яе, адпаведна, 23 і 20 дзён.

Баючыся ахвярнасці, Лукашэнка даў загад іх выпусціць. А вось украінцаў з УНА-УНСО пасадзілі. Яны прыязджалі дапамагчы братам-беларусам у барацьбе за незалежнасць, а трапілі ў вязніцы.

### Згасанне энергіі

Кіраўнікі БНФ прапускаюць нагоду прадоўжыць націск у часе «ідэалагічна чужога» Першамая. Але на гэтым падзеі Вясны-96 не спыняюцца.

Праз тры дні пасля Шляху, 29 красавіка Канстытуцыйнаму Суду хапае смеласці прызнаць неадпаведным Канстытуцыі Беларусі ўказ А. Лукашэнкі ад 29.12.1995, паводле якога ад органаў улады патрабуецца выконваць указы прэзідэнта Беларусі, якія былі прызнаныя неканстытуцыйнымі.

Драматычныя сутычкі з міліцыяй разгортваюцца ў часе пікета за вызваленне палітвязняў 30 мая.

Толькі ў сярэдзіне чэрвеня грамадскі напал спадае. Апошняй акцыяй сталася жалобная цырымонія 22 чэрвеня ў 55-я ўгодкі пачатку вайны. Пад залеваю цёплага дажджу да помніка Перамогі былі ўскладзены кветкі, а далей шматтысячная калона дэманстрантаў пад бел-чырвона-белымі сцягамі рушыла да Оперы, дзе правяла свой мітынг.

### Чаму 1996 год — гэта не 1991?

Пратэсты 1996-га сталіся самымі масавымі пасля выступу рабочых у 1991 г., калі складаная эканамічная сітуацыя напярэдадні распаду СССР прывяла да моцнага сацыяльнага выбуху. Патрабаванні 1991 г. гістарычна вызначаліся тым, што яны ўпершыню абмяжоўваліся праблемамі Беларусі. Але палітычная праграма масавага ўдзельніка тых пратэстаў была абмежаванай. Тая Плошча была выкліканая эканамічным крызісам. А вось у 1996-м упершыню беларусы масава і настойліва выходзілі на вуліцы змагацца за нацыянальныя каштоўнасці, за незалежнасць.



**Дэманстранткі прыклалі снег да галавы збітаму (?) прафесару БНТУ Савіцкаму.**

### Усе мы родам з 1996-га

Існуе думка, што за палітыкай інтэграцыі з Расіяй стаялі асабістыя амбіцыі Аляксандра Лукашэнкі, які лічыў сябе разумнейшым за Ельцына палітыкам і бачыў сябе кіраўніком аднаўленага Савецкага Саюза. Акрамя таго, ён адчуў, што імперскія амбіцыі Расіі можна эксплуатаваць для атрымання рэсурсаў. Гэта паляпшала эканамічную сітуацыю тут і цяпер, але заводзіла краіну ў залежнасць.

Удзельнікамі выступаў 1996 года стала найперш сталічная інтэлігенцыя і моладзь.

Вясна 1996 года аднавіла ў Беларусі вулічныя пратэсты, а таксама прынесла такія з'явы, як галадоўкі і палітычных уцекачоў. Цікава, што на заключным этапе Вясны ўлады прадэманстравалі пэўную стрыманасць, баючыся радыкалізацыі пратэстаў.

Вясна-1996 засведчыла, што новая беларуская нацыя будзе нараджацца ва ўмовах палітычных і сацыяльных канфліктаў. Пратэсты паскорылі аўтарытарны дрэйф Лукашэнкі, які баяўся злучэння намаганняў вуліцы і наменклатурных груповак, прадстаўленых у парламенце. Пратэсты паказалі Захаду, што ў Беларусі ёсць сілы, якія не хочуць аб'яднання з Расіяй. Вясна-1996 прывяла да эміграцыі Пазняка, у выніку чаго змяніўся расклад сілаў унутры апазіцыі. Нарэшце, яна нарадзіла Малады Фронт.

Галоўнае, што інфармацыйныя перамогі Вясны-1996 збілі тэмп інтэграцыі з Расіяй. Дай лішні месяц, дай маўчанне грамадства, і сёння Беларусь магла б існаваць у форме ўнутранага татарстана.

Інфармацыйныя перамогі Вясны-96 збілі тэмп інтэграцыі з Расіяй.

### Дзейныя асобы

**Аляксандр Лукашэнка**

кіраваў краінай другі год. Эканоміка працягвала падаць. Лукашэнка ўсё ў большай ступені абапіраўся на сілавікоў. Разгарнуў інтэнсіўную русіфікацыю, узамен за якую спадзяваўся атрымаць шчодрую падтрымку расійскіх нацыяналістаў.

**Зянон Пазняк**

кіраваў Народным Фронтам. Фронт толькі-толькі пацярпеў паразу на парламенцкіх выбарах. Не ўдалося правесці ніводнага дэпутата — франтаўцы перамагалі ў некаторых акругах Мінска і захаду Беларусі, але з невялікім адрывам, бо грамадства было палярызаванае, і гэты невялікі адрыў лёгка знішчаўся адмінрэсурсам і фальсіфікацыямі. Яшчэ цяжэй ударыла па Фронце параза ў Ганебным рэферэндуме 1995 года. У 1996-м Пазняк надаў БНФ другое дыханне ўжо не як парламенцкай, а вулічнай апазіцыі.

**Генадзь Карпенка**

намеснік старшыні Вярхоўнага Савета і лідар ліберальнай апазіцыі. Ягоная стаўка на Вярхоўны Савет была хісткай, бо большасць у ім складалі дырэктары прадпрыемстваў і кіраўнікі калгасаў, не настроеныя на схватку за ўладу з Лукашэнкам. У часе Вясны-96 Карпенка ўдзельнічаў у аргкамітэтах некаторых шэсцяў, але рэзка адмежаваўся ад «радыкалаў», што ўступалі ў супрацьстаянне з АМОНам.



**Дэманстрант паказвае сцяг, заліты крывёй 26 красавіка 1996 года. Большасць дэманстрантаў складала моладзь.**




КАРМІЛКІН

**Дзень Перамогі. Сярод удзельнікаў цырымоніі Генадзь Карпенка (4-ы справа), Ніл Гілевіч (6-ы справа).**

### Гласарый

**Хапун** — неперакладальнае беларускае слова, азначае «масавыя арышты». Увайшло ў масавы ўжытак у перыяд дыктатуры.

**Касманаўты** — так празвалі спецназаўцаў за іх вялікія чорныя шлемы.

**Малады Фронт** — юнацкая суполка, што ўзнікла напачатку як структура моладзі БНФ. Ставіла задачамі абарону незалежнасці і прапаганду нацыянальнай культуры. Хутка разраслася і мела суполкі ў дзясятках гарадоў і вёсак. Пад канец 1990-х у пошуках новай ідэалогіі перайшла да хрысціянскай базы.

**УНА-УНСО** — маргінальная ўкраінская нацыяналістычная групоўка. Дзейнічала ў 1990-я. Пад канец 90-х трапіла пад кантроль спецслужбаў, а яе лідар Карчынскі стаў выконваць палітычны заказ украінскіх прарасійскіх алігархаў. У Беларусі набыла вядомасць праз удзел групы яе актывістаў у «Чарнобыльскім шляху».

# Экскурсія па лонданскім дне для мінчукоў

У клубе «Рэактар» выступіць англійскі гурт The Tiger Lillies. На гэты канцэрт людзі едуць аж з Харкава.

Большасць славутых замежных музыкантаў, якія завітваюць у Беларусь, выступаюць на вялікіх пляцоўках, і за нармальны квіток на іх многім давядзецца выкласці палову заробку.

Але нарэшце адбылося (а дакладней адбудзецца) і на нашай вуліцы свята. У Мінск едзе трыа The Tiger Lillies.

Чаму свята? Таму што, па-першае, «Тыгравыя лілеі» — не заслужаны пенсіянеры рок-н-ролу, а сучасныя зоркі з сусветным імем — дадуць клубны канцэрт з больш чым дэмакратычнымі коштамі на квіткі (ад 60 тысяч). Па-другое, іграюць яны ў тым стылі, які славянскай ментальнасці вельмі блізкі, — гэта віртуознае кабарэ, якое спалучае ў сабе чорны гумар, багемна-маргінальную тэматыку, цыгнаскія ноткі, і ўсё гэта прыпраўлена энергіяй і пранікнёнасцю ў найлепшых традыцыях Бертольда Брэхта.

The Tiger Lillies чым толькі не займаліся: яны выступалі разам са знакамітым струнным квартэтам Kronos Quartet, вялікім індастрыял-кампазітарам Бліксам Баргельдам, запісваліся разам са скандальным расейскім гуртом «Ленінград» (назву альбома ў газеце і падаць няма як — нецэнзурная). У пэўным сэнсе яны духоўныя нашчадкі Тома Уэйтса, калі ўявіць, што амерыканскі геній алкагольных ілюзій і валацужнай рамантыкі раптам перайшоў на фальцэт і падхапіў цыганска-панкаўскі вірус.

Співаюць «Лілеі» пра тое, пра што ў «прыстойных дамах» размаўляць не прынята: ад жыцця трансвестытаў і наркаманаў да праблемаў сэксу сярод мух. Падчас праслухоўвання іх запісаў здаецца, што яны былі б да месца ў французскіх кабарэ 1930-х, тых, дзе амаль непрытомную ад допінгаў Эдзіт Піаф вазілі ад пляцоўкі да пляцоўкі.

Шоу у іх таксама адпаведнае: то завадныя авечкі па сцэне бегаюць, то бубнач разбівае свой інструмент, то вакаліст пачынае прыкідвацца вар'ятам. Гэтае шоу настолькі палюбілася нашым усходнім суседзям, што адзін час было незразумела — гэта Tiger Lillies увесь час едуць у Расію ці «Тыгровыя Лілеі» часам катаюцца ў Еўропу… Дарэчы, па інтэрнэце гуляюць ролікі, у якіх музыканты гуртоў «Нагуаль», «Срэбнае вяселле» і «РокерДжокер» заклікаюць прыходзіць на канцэрт і робяць гэта насамрэч шчыра.

Канцэрт The Tiger Lillies адбудзецца 10 красавіка ў клубе «Рэактар» (вул. Харужай, 29).

**Юрась Ускоў**


LUKASBECK.COM

## КАНЦЭРТЫ

### Аркестр Дзюка Элінгтана

**У Дзень касманаўтыкі ў Мінску** выступіць «Гагарын сусветнага джаза». 12 красавіка ў рамках еўрапейскага тура ў Палацы Рэспублікі загучыць аркестр Дзюка Элінгтана. Менавіта гэты джаз-бэнд адкрыў свету сапраўдны амерыканскі джаз і стаў іконай для ўсіх знатакоў гэтага музычнага напрамку. У Вялікай зале Палаца Рэспублікі будзе магчымасць пачуць такія класічныя творы Элінгтана, як: It Don't mean a Thing (If It Ain't Got That Swing), Sophisticated Lady, Mood Indigo. **Пачатак а 19-й.**

### Трыб'ют The Beatles

**7 красавіка ў клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** можна паслухаць песні ліверпульскай чацвёркі ў выкананніі мінскіх гуртоў Love is і Apples. **Пачатак у 19.00.**




### Растаманы на вёсцы

**10 красавіка а 17.00 у Доме культуры вёскі Чэрні (Брэсцкі раён)** выступаюць гурты «Расліна мудрасці» і «Адыс Абеба». Квіткі: 10 000 — 15 000. Даведкі: (029) 313-98-60, (029) 727-30-97.

### Панк-перастройка

**7 красавіка а 18-й у R-Club (вул. Сурганава, 26)** — фестываль «Панк-перастройка». Выступаюць: «Брэнд хіт», «Зваротны адлік», VыdymanыMir, No Smoking!, BLAGI MAT!!!, «ПараЛель» Квіткі: 10 000 — 20 000. Даведкі: (029) 274-61-12, (029) 254-63-69.

## ІМПРЭЗЫ

### Беларускія танцы шточчацвер

**Шточчацвер ад 19-й да 23-й у кавярні «Жар-птушка»** адбываюцца беларускія танцавальныя вечарынкі. Вучаць ойру, падэспан, полькі, і не толькі. Кавярня месціцца ў парку Горкага. Уваход каштуе 8 тысяч рублёў з носа.

### Месяц польскай літаратуры

**У цэнтры Мінска ў кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37а)** цэлы красавік — вялікая паліца з польскімі кнігамі, перакладнымі і ў арыгінале; стэнд з польскімі газетамі; сустрэчы з польскімі пісьменнікамі.

**6 красавіка** — сустрэча з Ігнацыем Карповічам і прэзентацыя яго новага рамана Balladyny i romanse. **Пачатак а 19-й.**

**13 красавіка** — сустрэча з публіцыстам, пісьменнікам, даследчыкам літаратуры і еўрапейскіх культурных сувязяў Міхалам Ягелам і прэзентацыя ягонай кнігі Narody i narodowo ci. **Пачатак а 19-й.**

**20 красавіка** — творчая лекцыя з паэтам і польскім перакладчыкам Набокава Лешэкам Энгелькінгам. **Пачатак а 19-й.** Вядучы — Андрэй Хадановіч.

## ВЫСТАВЫ

### Парк Юрскага перыяду

**У мастацкай галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці (вул. Гікалы, 4)** працуе выстава «Парк Юрскага перыяду», на якой прадстаўленыя аўтарскія працы беларускага мастака Уладзіміра Найбіча. Дыназаўры зробленыя ў натуральную велічыню.

### Беларускі нацюрморт XX стагоддзя

**У Мастацкім музеі да 23 мая** працуе выстава «Беларускі нацюрморт XX стагоддзя».

На выставе прадстаўленыя жывапісныя творы з калекцыі музея, напісаныя мастакамі на працягу мінулага стагоддзя.

### Сакавіцкія каты

**У НВЦ «Белэкспа» (вул. Я. Купалы, 27)** да 10 красавіка працуе выстава «Сакавіцкія каты». Аўтарамі твораў з'яўляюцца як знакамітыя мастакі, так і студэнты ВНУ Мінска.

### Выстава памяці міністра БНР

**У Літаратурным музеі Багдановіча (вул. Багдановіча, 7а)** да 22 красавіка працуе выстава «Чалавек — крыніца сілы», прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Аркадзя Смоліча — навукоўца і палітыка, аўтара першай «Геаграфіі Беларусі» і сябра Рады БНР.

### Парцаляна для каралёў

**У Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20)** да 10 мая працуе выстава фарфоравай мануфактуры Херэнда «Парцаляна для каралёў». На выставе можна ўбачыць дэкаратыўныя вазы, прадметы з чайнага, абедзеннага сервізаў з дэкорам «Птушкі Ротшыльдаў».

### Новае жыццё старадаўніх абразоў

**У Мастацкім музеі да 22 мая** працуе выстава абразоў і алтарных карцін «Адкрыццё святой прыгажосці». На выставе экспануюцца 10 твораў тэмпернага і алейнага жывапісу XVII–XIX стст.



## ТЭАТРЫ

### 6 красавіка

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?..»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»
**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Купалаўскі** — «Хам»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»

### 7 красавіка

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Купалаўскі** — «Translations»

### 8 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Купалаўскі** — «Вечар»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Оперы і балета** — «Спячая прыгажуня»

### 9 красавіка

**Юнага гледача** — «Вандраванне ў княства Сноў»
**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»

### 10 красавіка

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Оперы і балета** — «Чыпаліна»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Беларускай драматургіі** — «Чорны квадрат»

### 11 красавіка

**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

### 12 красавіка

**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Беларускай драматургіі** — «Містэр Розыгрыш»

### 13 красавіка

**Оперы і балета** — «Хаваншчына»
**Юнага гледача** — «Апошняя дуэль»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Купалаўскі** — «ГендэльБах»

## КІНО

### Забаронены прыём

Sucker Punch

ЗША — Канада, 2011, каляровы, 110 хв.

**Рэжысёр:** Зэк Снайдэр

**Ролі выконваюць:** Эмілі Браўнінг, Эбі Корніш, Джэна Мэлоўн

**Жанр:** Псіхіятрычна-камп'ютарная гульня

**Адзнака:** 3 (з 10)

Фабула фільма ўзятая з камп'ютарнай гульні. Пасля смерці маці злы айчым адпраўляе падчарку ў псіхушку, дзе ёй мусяць зрабіць лабатамію. Каб уцячы з вар'ятні, увязненыя дзяўчынкі мусяць сабраць пяць рэчаў, знойдзеных ва ўласных фантазіях.

Кожная місія — асобная прыгода баявога атрада вар'ятак-бландзінак з самурайскімі мячамі і гранатамётамі. Кайзераўскія жаўнеры-зомбі, цмокі з палаца, злыя робаты разлятаюцца ў шматкі пад ударамі дзяўчынак у кароткіх спаднічках.

Фільм падаецца стэрыльным, камп'ютарная калатнеча не чапляе, а ўсе вынаходкі — старыя. У вылізанай карціне скасавана ўсё жывое, нават недарэчнасці.

Адзінае, што здзіўляе — парадаксальнае выкарыстанне музыкі 1980-х. Але, каб нацешыцца той музыкай, неабавязкова глядзець гэты фільм.

**Андрэй Расінскі**






# Дысідэнты, поп-культура, сэксуальная рэвалюцыя

31 сакавіка ў галерэі «Універсітэт культуры» (Палац Рэсублікі) адкрылася выстава скандальнага савецкага фатографа Аляксандра Барадуліна «Рэтраспектыва». На выставе дэманструюцца фотаздымкі часоў распаду СССР, дысідэнты, сэксуальная рэвалюцыя на Захадзе, жыццё еўрапейскіх сталіц і культавыя асобы моды і спорту.

Барадулін быў першым савецкім фатографам, які паказаў, што ў СССР сэкс ёсць. Яго праект «Рускія дзяўчыны» на 30% падняў продажы часопіса Playboy, і да сёння гэты выпуск лічыцца самым паспяховым за ўсю гісторыю гэтага выдання. Барадулін першым з савецкіх фотамастакоў супрацоўнічаў з такімі асобамі, як Эндзі Уорхал, Арнольд Шварцэнегер, Фрэдзі Мэрк'юры. Зараз Аляксандар Барадулін знаходзіцца ў Мінску, дзе плануе ажыцявіць некалькі арт-праектаў. Адным з іх стане выстава, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне. На ёй будуць дэманстравацца архіўныя здымкі часоў вайны бацькі Барадуліна Льва — класіка савецкай фатаграфіі.

Выстава працягнецца да 21 красавіка.

**СГ**



# Паўлу Данейку — 50

3 красавіка паўвекавы юбілей адзначыў вядомы эканаміст і грамадскі дзеяч Павел Данейка. Ён быў адным з наймалодшых дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання ад Мінска. Актыўна процістаяў аўтарытарнаму перавароту 1996 года, быў адным з творцаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Арганізоўваў Маршы свабоды.

На пачатку 2000-х адышоў ад палітыкі, засяродзіўся на бізнэсе, які вёў як у Беларусі, так і ў Расіі і Украіне. Ад 2007 года ён стаў рэктарам Moscow Business School (MBS), а ад 2009 — адміністратыўным дырэктарам Беларускага эканамічнага даследчыцка-адукацыйнага цэнтра (BEROC).

Данейка адыграў важную ролю ў развіцці грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Яму належалі ідэі заснавання Інстытута прыватызацыі і менеджменту і Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў.

Апроч усяго іншага, Павел Данейка — выдатны расказчык анекдотаў. Кажа, што палітычныя не любіць, бо яны хутка старэюць. Перавагу аддае заўсёды надзённым.

**Сяргей Гезгала, ЗП**

Рэдакцыя «НН» далучаецца да віншаванняў.

**Анекдот ад Паўла Данейкі**

Хлопец прыходзіць дадому. І паведамляе маці, што ён жэніцца.

– Вось, мама, фотаздымкі пяці дзяўчат. Адгадай, якая будзе маёй жонкай?

Маці паказвае на адзін са здымкаў. Хлопец збянтэжана:

– Як ты здагадалася?

– Яна мне адразу не спадабалася.

# Барысу Кіту — 101

Патрыярх беларускай дыяспары паказвае прыклад жыццялюбства.

6 красавіка Барысу Кіту спаўняецца 101 год. Народжаны на Навагрудчыне, перад вайной і ў вайну ён працаваў выкладчыкам матэматыкі ў беларускамоўных гімназіях. Пры канцы вайны эміграваў на Захад. У ЗША ён стаў славутым. Ён працаваў на касмічнае агенцтва НАСА, вынайшаў паліва для ракетных рухавікоў.

Пасля выхаду на пенсію Кіт пераехаў з ЗША ў Нямеччыну, у Франкфурт-на-Майне, каб быць бліжэйшым да Бацькаўшчыны. Колькім людзям ён дапамог! У свае гады дзядзька не губляе жыццялюбства. У інтэрв'ю на стогоддзе ён з цеплынёй апавядаў пра «цудоўныя моманты жыцця, якія правёў з кабетамі».

З нагоды народзінаў славутага земляка на мінскай Сядзібе ТБМ (Румянцава, 13) пройдзе імпрэза. У праграме: прэзентацыя кнігі «Зорны шлях», прагляд відэароліка, запісанага ў часе святкавання 100-годдзя Кіта. Пачатак а 18-й, уваход вольны.



**Сяргей Мікулевіч**

# Коласаўскі ліцэй рэгіструецца ў Гданьску

Ад 1 верасня ў польскім Гданьску пачне працу беларускамоўны ліцэй. Выкладаць у ім будуць тыя, хто раней працаваў у Гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа.

Гэтая навучальная ўстанова была пазбаўленая рэгістрацыі ў 2003 годзе. І з гэтага часу існуе на паўлегальным становішчы. Дзеці займаюцца як у Беларусі, так і выязджаюць на сесіі за мяжу. Афіцыйна лічыцца, што яны знаходзяцца на хатнім навучанні. У выпускных класах дзеці здавалі ўсе прадметы экстэрнам.

З 1 верасня гэтага года ўступіць у сілу новы адукацыйны кодэкс. У адпаведнасці з ім, цяпер дазвол на хатнюю адукацыю для дзіцяці бацькі мусяць атрымліваць у дырэктара найбліжэйшай школы. Раней у Беларусі, як і ва ўсім свеце, гэта вырашалі самі бацькі.

Выкладчыкі занепакоеныя тым, што бліжэйшым часам на хатнюю адукацыю могуць быць накладзеныя абмежаванні. І з гэтай нагоды адбываецца рэгістрацыя гданьскай навучальнай установы.

Ці азначае адкрыццё гданьскага ліцэя закрыццё мінскага? Намеснік дырэктара Ліцэя Лявон Баршчэўскі кажа: «Ні ў якім выпадку. Беларускі працягне сваю дзейнасць. Нашых выкладчыкаў проста папрасілі дапамагчы з працай Ліцэя ў Гданьску. Фактычна, яны будуць працаваць вахтавым метадам».

**Гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа**

выдатная ўстанова сярэдняй адукацыі. Спачатку эксперыментальная, а пасля ўзорная, яна давала бліскучыя веды сваім навучэнцам. Сярод выкладчыкаў былі выбітныя асобы. Дзейнічаў цалкам на беларускай мове. Быў ліквідаваны Лукашэнкам пасля даклада КДБ пра тое, што вялікі працэнт вучняў бярэ ўдзел у апазіцыйных дэманстрацыях. Працягнуў дзейнасць у напаўпадполлі.

Паводле польскага заканадаўства, у школе на тэрыторыі Польшчы могуць вучыцца дзеці з любой краіны свету, абы ім было дзе жыць і што есці.

«Коласаўцы» і раней выязджалі на вучобу ў Гданьск. Адзінае, што цяпер дзеці змогуць атрымліваць польскія атэстаты аб сярэдняй адукацыі. Гэта не перашкодзіць працягнуць адукацыю на радзіме: паводле міждзяржаўных пагадненняў, у беларускую ВНУ з польскім атэстатам паступаць можна.

**Зміцер Панкавец**



Насенне беларускай, нямецкай ды галандскай селекцыі дасць падвойны ўраджай.

# Дзе купіць бульбу эліту

Пачатак красавіка, час паруппіцца пра насенку. Дзе яе набыць? Беларускія вытворцы прапануюць гатункі на ўсе густы: ад ранній бульбы да позняй, насенне беларускай, нямецкай ды галандскай селекцыі.

Суперэлітнае насенне прадаюць толькі юрыдычным асобам. А вось простыя людзі могуць купіць эліту і першую рэпрадукцыю, што таксама някепска.

Больш за 50 гатункаў бульбы прапануе Інстытут бульбаводства ў Самахвалавічах, што пад Мінскам. Сярод іх «Дэльфін» (ранні), «Сантэ» (вельмі ўстойлівы да нематоды, можна садзіць на адным і тым самым месцы, лекуе зямлю), «Скарб» (лепшая замена колісь папулярнага «Тэмпу» — позні, смачны), «Янка» (сярэдняспелы), «Рагнеда» (сярэдняпозні), «Журавінка» (сярэдняпозні, чырвоны, вітамінны) ды іншыя.

Тэл.: (017) 506-61-41.

ТАА «Клон», створанае некалі Інстытутам бульбаводства, таксама месцішча пад Самахвалавічамі. «Клон» прапануе беларускія гатункі «Дэльфін», «Сантэ», «Скарб», «Янка», «Рагнеда», а таксама звышранні нямецкі гатунак «Карола».

Тэл./факс: 8(017) 506-61-43.

Тэл.маб.: (029) 670-40-98; (029) 670-40-97.

Набыць насенку, якую вырошчвае ААТ «Ніка» (Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці), можна непасрэдна ў вытворцы, а таксама ў крамах ААТ «МінскГатунакНасенГародніна» і РУП «БрэстГатунакНасенГародніна».

«Ніка» прапануе беларускія гатункі «Лілея», «Уладар» (ранняя), «Брыз», «Скарб», «Янка», «Журавінка». А таксама шэраг нямецкіх гатункаў: «Молі», «Дэбора» (ранняя), «Феліцітас» і «Ламбада» (сярэдняспелая).

Тэл./факс: (01596) 2-07-71.

Тэл.маб.: (029) 676-34-01; (029) 648-00-91.

Насенне гатункаў «Журавінка», «Скарб» і «Уладар» прапануе фермерская гаспадарка «Беразнякі АПС» (Петрыкаўскі раён Гомельскай вобласці).

Тэл.маб.: (033) 672-31-14; (044) 458-48-58; (044) 703-47-30.

**Падрыхтаваў Сямён Печанко**

# У Беларусі плануецца ўвесці чыпаванне сабак і катоў

Ужыўленне чыпа забяспечыць кантроль над жывёламі.

Праектам закона «Аб абыходжанні з жывёламі» ў Беларусі плануецца ўвесці чыпаванне сабак і катоў. Гэту працэдуру плануецца выконваць на ветстанцыях і ў «Фаўне горада».

У ліку запланаваных новаўвядзенняў — забарона на ўтрыманне ў шматкватэрных дамах сабак патэнцыйна небяспечных парод. Аднак тыя з іх, якія на момант набыцця законам моцы ўжо жывуць у шматкватэрных дамах, могуць заставацца ў сваіх гаспадароў да натуральнай смерці.

У праекце закона таксама плануецца замацаваць абмежаванні на ўтрыманне сабак і катоў у шматкватэрных дамах: у адной кватэры не павінна жыць больш за дзве жывёлы.

У законапраекце распісаная і дзейнасць пунктаў па часовым утрыманні жывёл. Тэрмін утрымання ў пункце часовага прыёму адлоўленай безнагляднай жывёлы плануецца павялічыць ад пяці дзён да месяца.

Зацвярджэнне законапраекта палатай прадстаўнікоў запланавана ў 2012 годзе.

**БелаПАН**




GORAD.BY



# Сапраўдная беларуская кухня

## Бігас

1 кг мясных прадуктаў (свініна, ялавічына, хатняя каўбаса, вяндліна і інш.), 1,5 кг капусты (можна браць свежую або кіслую, або лепш тую і тую ў прапорцыі 1:1), 2 цыбуліны, сухія або свежыя грыбы на смак, смалец для смажання, па жаданню чарнасліў або слівавае варэнне, воцат або кіслыя яблыкі, памідоры, соль, перац.

Мяса нарэзаць невялікімі кубікамі, каўбасу — кружочкамі, абсмажыць на смальцы. Падсмажаныя кавалачкі разам са смальцам перакласці ў рондаль, дадаць нашаткаваную свежую або кіслую капусту і тушыць у невялікай колькасці вады (або булёну).

Сухія, папярэдне замочаныя, або свежыя грыбы дробна вымыць, нарэзаць саломкай і дадаць да капусты і мяса. Таксама дадаць чарнасліў або слівавае варэнне, падсмажаныя на смальцы кавалкі памідораў і здробненую цыбулю, пасаліць, паперчыць.

Тушыць на маленькім агні да гатоўнасці.

**Падрыхтавала НБ**



# Кемікі



Як, выкарыстоўваючы лічбу 5 і ўсе знакі (+, -, :, x), а таксама дужкі, атрымаць у адказе 0, 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10?

Адказы глядзі на старонцы 16.

**Сабрала Валянціна Карнялюк**

**У Партыі БНФ забіраюць гістарычную сядзібу. Кіраўніцтва БНФ пастанавіла бараніць яе ўсімі спосабамі. Ад 31 сакавіка ў памяшканні пачаліся кругласуткавыя дзяжурствы. У першую ноч вахту нёс у тым ліку і старшыня партыі Аляксей Янукевіч (на фота).** **Старонка 5.**




PHOTO.BYMEDIA.NET

**Аматары экстрэмальнага спорту закрылі зімовы сезон скокамі ў ваду ў Сілічах.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІ

**1 красавіка клуб аматараў аўтамабіляў маркі «Масквіч» адзначаў адкрыццё сезона. Дзевяць «Масквічоў», якія рухаліся па праспекце Незалежнасці, на ўздыме да нулявога кіламетра спыніла ДАІ і прапанавала раз'ехацца, запісаўшы дадзеныя кожнага з кіроўцаў. Аказваецца, групу машын са сцягамі і савецкай атрыбутыкай «засеклі» відэакамеры ля плошчы Перамогі. ДАІ, напэўна, баіцца пагрозаў аўтааматараў заблакаваць праспект у знак пратэсту супраць падвышэння цэнаў на паліва.**



TOXABY.LIVEJOURNAL.COM




SVABODA.ORG

## «НН» сто гадоў з вамі

Зембінскі хаўрусны банк. Наш банчок ужо тры гады як адкрыўся стараннем гаспадарскай суполкі, тры гады як выручаець бедных людзей з бяды, памагаючы ім захваціць на патрэбу на невялікі працэнт грошы і не дапускаючы іх у рукі паганых ліхвяроў [Зембін — мястэчка пад Барысавам].

**«НН». № 13. 1911**

Вітаўту — кветкі, Леніну — вянок. Святочная дэманстрацыя (каля 2000 чалавек) прайшла вуліцамі Горадні. Каля Каложы адбыўся мітынг. Былі ўскладзеныя кветкі да помніка князю Вітаўту і мемарыяльнай дошкі паўстанцам Касцюшкі ў Новым замку. Адмыслова да Дня Волі быў падрыхтаваны вянок з калючага дроту, які прызначаўся помніку Леніну. Але 25 сакавіка пляц Леніна ахоўвалі 300 міліцыянтаў. Удзельнікі акцыі кінулі вянок проста ім пад ногі.

**«НН». № 13. 2001**

## Анекдоты

* * *

Нацбанк пераходзіць на працу ў 3D. Партыя адмыслова закупленых у Кітаі акуляраў дазваляе зрокава павялічыць золатавалютныя рэзервы краіны.

* * *

— А ці хочаце паліва за паўдаляра? — спытаў Лукашэнка.
— Так! — сказаў народ.
І стаў даляр 6000 рублёў.

* * *

Валютны рынак Беларусі часова не рэгулюецца ў сувязі з адсутнасцю валюты.

* * *

Масавыя беспарадкі невялікай групы асоб прымусілі ўладу прыняць жорсткія меры супраць народа. Са спыненнем продажу валюты ўключна.

* * *

Паводле інфармацыі НБРБ, курс белрубля адвязваецца ад бакса і прывязваецца да білета «суперлато». Па курсе 3070 блрб = 1 бсл (білетсуперлато).

* * *

Наступнае рашэнне Нацбанка мусіць гучаць так: Нацбанк перастаў называцца Нацбанкам і да грошай больш не мае ніякага дачынення.

* * *

Зімоўскаму пальчыкі адкаталі. А трэба было язык адкатаць.

* * *

— Чаму ў вашай парашутнай школе няшчасных выпадкаў больш, чым у іншых школах?
— Разумееце, у нас інструктар вельмі крыўдлівы.

* * *

— Афіцыянт, я ж заказваў морапрадукты!
— Я і прынёс макарону па-флоцку.

* * *

У чым розніца між жабраком і няўдачнікам? У абодвух няма айфона, але няўдачніка гэта хвалюе.

* * *

— Сябар кніжку даў пачытаць пра Масковію часоў Івана Жахлівага. Пра жорсткія катаванні і страты таго часу.
— Ён, мусіць, гісторыяй захапляецца?
— Не. Я яму дзве тысячы даляраў вінен.

**Адказы да старонкі 15:**

5-5=0
5:5=1
(5+5):5=2
(5+5+5):5=3
(5+5+5+5):5=4
(5+5)-5=5
5+(5:5)=6
5+5-(5+5+5):5=7
(55:5)-(5+5+5):5=8
(5+5)-(5:5)=9
5+5=10

**Наша Ніва**
незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7240.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 05.04.2011.
Замова № 1593.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614